## ЯНКА МАЎР

# ЧАЛАВЕК ІДЗЕ!



ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

ЯНКА МАЎР



# ЧАЛАВЕК ІДЗЕ

МАЛЮНКІ А. ТЫЧЫНЫ



ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
МЕНСК—1927

# ЧАЛАВЕК ІДЗЕ

## I

Старадаўнія часы. Царства зьвяроў. Ці людзі? Няўдалае паляваньне. Падвячорак з... пацука. Начлег на дубе.

ГЭТА было даўно, даўно... Можа мільён, ці, нават, больш гадоў таму назад. Дакладна гэтага сказаць ня можна, але прыблізна навука добра ведае, калі і як гэта было. Ёсьць сьведкі з таго часу: розныя знакі, рэчы, расьліны, косьці, каменьні, нават самыя пласты зямлі, якія досыць праўдзіва могуць расказаць розныя цікавыя гісторыі з гэтага часу. Трэба толькі ўмець іх слухаць...

З такіх помнікаў і склалася тая гісторыя, аб якой тут будзе існці рэч.

У тыя часы наша Эўропа мела зусім другі выгляд. Мора займала ўсю сучасную паўднёвую Эўропу і даходзіла да Альпаў, а ў нас да Кацярынаслава і Сталінграда.

Каўкаскія, Крымскія горы, Альпы, Апэніны тады толькі што пачыналі падымацца ад зямлі. Усюды было многа дзейнічаючых вульканаў, нават у такіх мясцох, дзе цяпер аб гэтым ніхто і ня думае, напрыклад, у сучаснай Нямеччыне, Ангельшчыне. Казбэк, Эльбрус выкідвалі агонь, попел, лаву.



... дзейнічалі вулканы.

Паступова, павольна, у працягу многіх тысяч гадоў Эўропа прымала той выгляд, які мае цяпер.

І клімат быў другі, значна цяплейшы, напрыклад, як цяпер у паўночнай Афрыцы.

Адпаведна гэтаму і расьліннасьць была больш рознастайная і багацейшая. Фігавыя і лаўравыя дрэвы расьлі разам з хваёвымі. Разам з дубам, клёнам і вязам падымаліся пальмы, а нашыя бярозы і вербы стаялі побач з міртамі, магноліямі і алеандрамі.

Уся гэта расьліннасьць складала вялізарныя лясы, займала значнае месца. Насельнікамі гэтых лясоў былі ўсялякія зьвяры, з якіх адна частка дайшла да нашага часу блізка што такімі самымі, як былі, другая зусім зьмянілася, а трэцяя зусім зьнікла, і іх цяпер называюць „дапатопнымі“.



Расьліннасьць была рознастайнай...

Былі і стэпавыя прасторы, дзе вольна бегалі стэпавыя зьвяры.

Але толькі нідзе ня відаць было сьлядоў чалавека. Ніводнага чалавечага жыльля ня было ва ўсёй краіне. Аніводнага чалавечага слова ня чулася па ўсяму прастору. Аніводнага паляўнічага ня сустракалі зьвяры на сваёй дарозе.

Гэта было запраўднае „царства зьвяроў“. Яны адны былі гаспадарамі ўсёй зямлі...

Але вось на аднэй палянцы зьявіўся гурток нейкіх істот, якія ішлі на двух нагах. Можа гэта і ёсьць людзі?

Не, здаецца, гэта малпы. Бо ўсё цела іх пакрыта шэрсьцю. Галава доўгая, роўная, быццам зьверху прыціснутая. Лоба блізка, што зусім няма, а які ёсьць, дык і той вельмі-ж пукаты. Нос таксама прыціснуты, пераносьсе чуць прыкметна. Вочы сядзяць надта глыбока; а косьць над імі выступае наперад, як страха. Падбародак ледзь значыцца, а вялізныя сківіцы высунуліся наперад, як і ў кожнага добрага зьвера.

Рост іх быў невялічкі, плечы шырокія, а рукі занадта доўгія. Ногі-ж, наадварот — вельмі кароткія.

Адным словам, зусім не такі выгляд, як у нас з вамі.

Але з другога боку, калі добра прыгледзецца, дык і ад малпаў яны значна адрозьніваліся. Перш за ўсё, яны ўвесь час хадзілі і стаялі толькі на двух нагах, і хадзілі цьвёрда, блізка што проста, апіраючыся на зямлю ўсёй падэшвай.

Малпы-ж, як вядома, ніколі так ня ходзяць. Калі ім здараецца прайсьці на двух нагах, дык толькі некалькі крокаў, але і тады яны ступаюць на зямлю толькі бакамі падэшвы, як, напрыклад, ходзяць у нас дзеці з вельмі крывымі нагамі.



Гэта было запраўднае „царства зьвяроў“.

Адна толькі хада ўжо паказвала, што гэтыя істоты ні ў якім разе ня могуць быць малпамі.

Але і другія адзнакі таксама аб гэтым сьведчылі. Напрыклад, рукі, хаця-ж яны былі і даўжэйшыя за нашы, але-ж карацейшыя ад рук малпы. Апрача таго, відаць было, што і трымаюцца рукі вальней, чым у малпаў. Калі наша сучасная чалавекападобная малпа ідзе на двух нагах, дык яна рукамі дасягае зямлі і абапіраецца імі перад сабой, закідваючы ногі за рукі. А тутака была зусім другая справа. Відаць было, што гэтыя істоты прывыклі ўжо рабіць рукамі рознастайныя рухі.

Далей, калі галава і морда зусім не падобны былі да чалавечых—затое таксама адрозьніваліся і ад малпавых. Хаця-ж лоб быў маленькі, але ўсё-ж такі большы, і галоўнае, прамейшы за лоб малпы.

І, урэшце, самая галоўная адзнака—гэта велічыня чэрапу альбо, праўдзівей сказаць, ёмкасьць яго, дзе зьмяшчаюцца мазгі. Самая разумная і вучоная сучасная малпа мае

гэтую ёмкасьць у два разы меншую ад нашага чалавека [1]).

Такім чынам выходзіць, што перад намі ня малпы, а значыцца, людзі. І запраўды: гэта былі першыя людзі, якім як-ні-як можна было ўжо даць назву чалавека.



Гэта былі першыя людзі...

Не адразу яны зьявіліся такімі. Мільёны гадоў прайшло, пакуль яны сталі такімі, як мы іх бачым. Таксама, як мільёны гадоў павінны былі прайсьці, пакуль мы зрабіліся такімі, якія мы цяпер.

1) Сярэдні аб'ём чэрапу сучасных чалавекападобных малпаў—600 куб. сантымэтраў, а ў гэтых істот—1.200 куб. см. Сярэдні аб'ём чэрапу сучасных эўропэйцаў—1.500—1.600 куб. см., а сучасных дзікіх людзей—1.300—1.400 куб. см.

Доўгі час людзі нічым не адрозьніваліся ад малпаў, а яшчэ раней, і ад другіх зьвяроў. Можа выпадкова іх дзяды папалі ў другія ўмовы жыцьця, дзе прыходзілася больш быць на зямлі, чымся на дрэвах, дзе рукі іх сталі прывыкаць да другой працы, дзе ім больш прыходзілася папрацаваць мазгамі,—і патолькі іх ужо крыху пачалі адрозьніваць ад другіх.

Доўгія часы гэтыя адзнакі былі вельмі нязначнымі. Але паступова яны станавіліся ўсё значнейшыя і значнейшыя і нарэшце, прышоў такі час, калі выразна стала відаць, што гэтыя істоты—не зьвяры.

А калі мы прыпомнім, што на нашых вачох, у працягу малога часу, чалавек можа зусім зьмяніць пароду жывёлаў, паставіўшы іх у другія ўмовы, калі мы зьвернем увагу, што тая самая жывёла і, нават, сам чалавек і цяпер у розных мясцох, пры розных умовах жыцьця, мае зусім другі выгляд і здольнасьці—тады ўсім нам стане ясна, што ў працягу мільёнаў гадоў гэтыя зьмены павінны быць дужа значнымі. Гэта-ж даводзіць нам і навука аб гісторыі чалавека.

* * *

Гурток складаўся з 25-30 асоб. Тутака былі і жанчыны з дзецьмі на руках і на карку, і падлеткі, і мужчыны рознага ўзросту, у тым ліку адзін стары.

У руках яны нічога ня мелі, нічога ня несьлі. Яны жылі яшчэ таксама, як усе другія жывёлы; вандравалі з месца на месца, шукаючы корму.

Адны выграбалі рукамі нейкія карэньні, другія шукалі на дрэвах плады; трэція стараліся злавіць і знайсьці штонебудзь жывое: чарвяка, жука і г. д.

Нялёгка было папасьвіцца такім чынам. Шмат часу трацілася на гэты падвячорак. І ніводным словам яны яшчэ не перакінуліся паміж сабой.

Пасьля мала-па-малу сталі зьбірацца на палянку, каб адпачыць. Усеўшыся на карачкі, яны моўчкі глядзелі наперад і, здаецца, ні на што не зварачалі ўвагі. Ціха было каля іх. Толькі дзеці гуляючыя часам бурчэлі. Ад дарослыхжа таксама ня чуваць было ніводнага слова.

Ці-ж яны нямыя, ці што?

Не, не нямыя яны, але... ня ўмеюць яшчэ гаварыць.

І нічога дзіўнага ў гэтым няма. Мы ведаем, што малыя дзеці не адразу пачынаюць гаварыць. А калі пачынаюць, дык толькі затым, што ўвесь час каля сябе чуюць гаворку. А каб яны ні ад кога ня чулі аніводнага слова, тады і ня ведалі-б мовы.

Ад каго-ж мог чуць мову першы чалавек? Значыцца, ён і ня мог навучыцца. Ды каб ён цяпер і пачуў мову, ён усё роўна цяпер яшчэ ня мог-бы навучыцца, бо язык яго яшчэ не прыстасаваны да гэтага, затым, што ніколі не гаварыў.

Праўда, некалькі слоў, калі магчыма так назваць некаторыя іхнія гукі—яны ведалі. Напрыклад, яны добра ведалі слова „Га", якое звычайна вымаўляў правадыр, калі трэба было сабрацца ўсім разам і ісьці далей, альбо наогул зьвярнуць увагу на што-небудзь.

Каб перавесьці гэтае слова на нашу мову, дык яно азначала-б разам шмат паняцьцяў, напрыклад: „Увага. Сюды. Зьбірайцеся. Глядзі. Ідзем. Будзьце асьцярожны. Слухайце. Стой. Пачакайце. Цішэй".

* *
*

Сонца ласкава асьвятляла палянку. Людзі спакойна адпачывалі і, здаецца, адчувалі сябе прыемна. Дзеці бегалі, гулялі. Маткі даглядалі сваіх маленькіх дзяцей, выбіралі з шэрсьці трэсачкі, альбо яшчэ што.

Але дзіўная рэч: усе яны чамусьці былі нейкія сумныя. За ўвесь час ніхто з іх яшчэ ні разу ня ўсьміхнуўся. Нават маткі песьцілі сваіх дзяцей неяк сурова. А хлопчыкі бегалі, куляліся, быццам выконвалі нейкую няпрыемную працу. А разам з тым відаць было, што яны адчуваюць сябе досыць добра.

Што такое з усімі імі здарылася?

Нічога. Проста яны яшчэ ня ўмелі сьмяяцца.

Умовы іх жыцьця былі такія, што вельмі мала было прычын якія-б выклікалі ўсьмешку, якія-б давалі магчымасьць для разьвіцьця гэтае здольнасьці.

І зразумела: сярод лясных жыхароў яны былі самыя слабыя, самыя мізэрныя. Яны не маглі памерацца сілай з вялікімі зьвярмі. Ня мелі тых зубоў і кіпцюроў, якія маюць драпежныя зьвяры. Нават бегаць не маглі так хутка, як бегаюць некаторыя жывёлы.

Кожны зьвер, які цяпер і духу чалавечага баіцца, тады мог скрыўдзіць кожнага чалавека.

А як было пракарміцца, пражыць?..

Не да сьмеху тут...

А здольнасьць сьмяяцца, як і ўсе другія здольнасьці, не звалілася сама з неба. На гэта таксама патрэбны і доўгі час і адпаведныя ўмовы.

Не дарма-ж да нашага часу аніводная жывёла не навучылася яшчэ сьмяяцца.

Сярод гуртка некалькі адзначаўся адзін мужчына, трохі вышэйшага росту, відаць, дужэйшы за другіх і, нават, здавалася, як быццам з твару разумнейшы. Гэта быў правадыр гуртка.

Ніхто яго, разумеецца, ня выбіраў, не прызначаў. Склалася гэта само праз сябе ў тыя часы, калі ён у бядзе першы кідаўся на ворага, калі ён першы прымячаў і папярэджваў аб небясьпецы, калі ён клапаціўся аб карысьці дзеля ўсяго гуртка.

Ён стаяў абапёршыся аб дрэва і, здаецца, думаў аб нечым.

Але ці-ж мог ён думаць наогул так, як мы гэта сабе ўяўляем?

Вядома, не! Калі мы прыслухаемся да сябе, мы заўважым, што нашу думку выклікаюць паняцьці, якія азначаюцца словамі. Мы як быццам у думцы гаворым.

А калі ён ня ўмеў гаварыць, значыцца, ня ўмеў і думаць.

У яго галаве мільгалі нейкія няясныя вобразы, але зьвязаць іх у адну складную думку ён ня мог.

Вось каля яго пакруціўся дванаццацігадовы хлопчык, яго родны сын. Правадыр паглядзеў на яго, у вачох нешта засьвіцілася, як быццам ён хацеў нешта прыпомніць, але зараз-жа гэта прайшло, і бацька так і ня ведаў, што гэта яго сын.



...выскачыла дзьве казы.

Раптам у лесе нешта зашуршэла, і на палянку выскачылі дзьве казы. Угледзіўшы чужых, яны спыніліся, быццам зьдзіўленыя, і ў той самы момант некалькі мужчын кінуліся да іх. Але рукі

толькі сьлізганулі па сьпіне—і жывёлы зьніклі. Нялёгка было выходзіць на паляваньне нашым людзям з голымі рукамі...

Такая няўдача, відаць, засмуціла іх. Хоць твары іх і нельга было назваць ясна выразнымі, але-ж і на іх адбілася нейкае расчараваньне.

Разам з тым прачнуўся голад, і яны ізноў пашлі шукаць спажывы. На гэты раз некаторыя шчасьліўцы знашлі нават птушынае гняздо з яечкамі і злавілі крата.

На адну жанчыну натрапіў нейкі зьвярок, падобны да нашага пацука. Угледзіўшы небясьпеку, ён скруціўся ў вузел і прыкінуўся мёртвым. Але гэта не памагло. Жанчына ўсё роўна ўхапілася за яго, адразу разарвала і пачала есьці. Зубамі яна адрывала кавалкі і давала свайму дзіцяці.

Гэта быў так званы „сумчаты“ пацук, які яшчэ і цяпер жыве ў паўднёвай Амэрыцы, у Аўстраліі. Парода сумчатых зьяўляецца аднэй з самых старадаўніх і яшчэ цяпер захавала некалькі відаў, да якіх належыць, напрыклад, вядомы аўстралійскі кенгуру. Усе яны маюць тую адзнаку, што самкі данашваюць сваіх дзяцей у асобнай торбачцы, якая мае выгляд кішэні і знаходзіцца на грудзёх жывёлы.


Гэта быў „сумчаты“ пацук.

Тым часам надыходзіў вечар. Прыходзілася падумаць аб начлезе. Ня першы раз знаходзіліся людзі ў такім становішчы, і яны добра ведалі, што самым бясьпечным месцам у гэтым зьяўляюцца дрэвы.

Адзін за другім пачалі яны лезьці на шырокі дуб. У гушчыні яго знайшлося досыць выгодных месцаў, нават для жанчын з дзецьмі.

Некаторы час чуўся трэск і шуршэньне сярод галін, потым усё сьціхла. Людзі „палеглі“ спаць.

Ішла ноч, цёмная, парная. У лесе пачалося другое, начное жыцьцё. Вось прарэзьліва крыкнула нейкая птушка; вось зазьвінелі камары і мошкі. Дзесьці залаяла гіэна і здалёку данёсься рык льва.

Потым стаў набліжацца нейкі страшэнны шум, як быццам дзесьці страляюць гарматы. Вось шум бліжэй і бліжэй. Можна ўжо сказаць, што гэта ломяцца дрэвы і, відаць,

дрэвы не малыя. Набліжалася нешта жудаснае; чулася нейкае цяжкае тухтаньне, зямля дрыжала.

На дубе ўстрывожыліся, заварушыліся.

Вось грукнула бліжэйшае дрэва і верхавіна яго павалілася проста на дуб. Падняліся крыкі, пісканіна,—і некалькі чалавек зваліліся на зямлю.

Тыя, якія зваліліся, толькі ўгледзілі, што міма іх прашлі нейкія жывёлы, падобныя да гораў...

Шум і трэск паступова зьцішаўся. Жывёлы прайшлі. Людзі йзноў палезьлі на сваё месца. Добра яшчэ, што ніхто не пацярпеў.

Супакоіліся.

Але на захадзе зноў пачало грукацець. Гэта ўжо набліжалася навальніца. Усё яскравей бліскала маланка, усё мацней грымеў гром, і ўрэшце ён так грукнуў над галавой, што ўсе людзі пасыпаліся на зямлю. Сьледам за тым пашоў залівны дождж.

Можна ўявіць сабе, што павінны былі перажыць нашы людзі. Вядома, яны і да гэтага часу сустракаліся з такім зьявішчам, але зразумець, нават прывыкнуць яны пэўна не маглі і кожны раз палохаліся йзноў.

Гэты бляск, гэты грукат, гэта таемная сіла, там дзесьці высока, на небе, выклікалі ў іх такі страх, які глыбока мог ужо западаць у пачуцьцё баязьні перад невядомай вялікай сілай, ад гэтага потым нарадзілася шмат розных рэлігіяў.

Дождж ішоў усю ноч. Людзі туліліся пад дрэвам, дрыжалі ад холаду, і, здавалася, ніколі ня будзе канца гэтай цемры.

Так пачынаў сваё жыцьцё чалавек.

Той чалавек, які цяпер лётае ў паветры, плавае пад вадой, перагаварваецца праз усю зямлю з другімі людзьмі, кіруе прыродай...

Той, які сваім розумам і працай дайшоў да ўсяго таго, што мы маем...

---

## II

У дарозе. Забыты!.. Сьмерць ад насарога. Паляваньне голымі рукамі. Баль на ўвесь сьвет.



ДОЖДЖ перастаў толькі раніцаю.

З якой радасьцю сустрэлі нашы людзі першыя праменьні сонца! Нават іх морды неяк скрывіліся ад прыемнасьці. Гэта былі першыя пачаткі, першыя спробы ўсьміхнуцца. Але для нас гэта было-б нават брыдка глядзець...

Сонца падымалася, станавілася цяплей. Людзі павылазілі на сонца, грэліся, сушыліся, некаторыя пачалі засыпаць. Але голад быў важней за сон. Трэба было ісьці далей.

Павадыр крыкнуў і пашоў наперад, у лес. За ім пацягнуліся ўсе астатнія.

Быццам чарада якіх-небудзь жывёлаў, пасоўваліся яны наперад, то разыходзячыся, то зноў сходзячыся. Ніякіх галасоў не раздавалася сярод іх. Чутно толькі было, як шуршэлі ды трашчалі пад нагамі сухія галіны.

Кожны быў заняты сваёй справай: як-бы гэта знайсьці што-небудзь такое, каб можна было зьесьці.

Часам сьпераду раздаваўся трывожны крык павадыра. Тады ўсе зьбіваліся ў гурток і азіраліся, адкуль пагражае небясьпека. Яны нават не заўсёды маглі паказаць яе рукою. Яны і гэтага ня ўмелі рабіць.

І зноў трэба адзначыць, што гэта, здаецца такая простая рэч, таксама дарма не даецца і патрабуе шмат часу, вопыту і розуму.

Што-б мы ўсе сказалі, калі-б дзе-небудзь убачылі, як, напрыклад, сабака паказаў-бы лапай, што, вось, тамака бяжыць заяц. Мы гэта палічылі-б за такі цуд, якога яшчэ сьвет ня бачыў.

І запраўды яно так. Значыцца, мы і ня можам патрабаваць ад нашых першых людзей, каб яны адразу маглі перагаварвацца рукамі.

Досыць ужо й таго, што яны калі-ні-калі пачыналі так рабіць. Убачыўшы, напрыклад, плод на дрэве, чалавек крыкне і сам таго ня ведаючы, працягне руку ў гэтым напрамку. Але тут ні ў якім разе нельга сказаць, што ён хацеў паказаць рукою.

Альбо, убачыўшы блізка каля сябе ворага, ён ад страху працягне наперад руку. Але другі раз, калі небясьпека будзе далей, ён ужо не здагадаецца паказаць на яе.

Толькі павадыр ужываў гэта часьцей. Яго пасада была ўжо такая, што часьцей зьяўлялася неабходнасьць як-небудзь папярэдзіць сваіх таварышоў. Але і ён, пакуль што, рабіў гэта бесьсьвядома, як калі здарыцца.

Лес рабіўся ўсё гусьцей і цямней. Дрэвы падымаліся так высока, што іх верхавіны ледзь былі відны і так густа перапляталіся, што не прапускалі сьвету сонца. Сярод белага дня ўнізе быў змрок, як быццам увечары.

Зямля была чорная, вільготная. Нават трава не расла бяз сьвету.

Людзі мімаволі прыбавілі шагу, каб хутчэй выйсьці з гэтага няпрытульнага месца.

Ужо даўно адзін стары дзядуля напружваў усе сілы, каб не астацца ад чарады. Увесь час ён цягнуўся з-заду. А цяпер яму прышлося зусім цяжка. Людзі адыходзілі ўсё далей і далей.

Стары спатыкаўся, падаў, зноў падымаўся. Ногі дрыжалі, падкошваліся. Але адлегласьць да сваіх няўхільна павялічвалася ды павялічвалася.

Ён пачаў бегчы, але зараз-жа паваліўся на зямлю.

Вось ужо толькі астатнія фігуры людзей далёка мільгаюць сярод дрэў.

Жудасная цішыня абхапіла старога. Тупы жах напоўніў яго мазгі. Ён не разумеў, што такое робіцца, але ўсёй сваёй істотай адчуваў нешта страшнае.

Ён выдаў хрыплы, але слабы гук. Рэха адазвалася—і зноў усё ціха.

Зноў падняўся, пабег—і зноў паваліўся. Ногі млелі, увесь ён засопся. Так хацелася хоць-бы крыху адпачыць, але ён адчувае, што так нельга, што ня гледзячы ні на што трэба йсьці наперад, да сваіх.


Тады ён пачаў паўзьці...

Зноў падымаўся, зноў падаў, пакуль ужо зусім ня мог падняцца.

Тады ён пачаў паўзьці. Вочы яго былі накіраваны ў той бок, куды пашлі яго сыны і ўнукі. Ужо даўно нікога ня было відаць, а ён усё поўз, поўз наперад.

Стары, малпападобны твар гэтае няшчаснае істоты тросься, крывіўся, вочы зрабіліся вільготнымі, але... і плакаць ён яшчэ ня мог. Нічога яшчэ яны ня ўмелі.

Але вось перад яго памутнеўшымі вачыма заблішчалі якіясьці другія вочы. Блïснулі з аднаго, з другога боку, усё бліжэй, бліжэй... Вось ужо чуецца лёскат зубоў і глухое бурчаньне... Потым старашэнная боль у плячох—і ўсё пацямнела...

А яго сыны і ўнукі тымчасам усё йшлі ды йшлі наперад і, нават, не заўважвалі, што кагосьці не хапае з іх чарады...

Праз некаторы час яны падышлі да балотнай нізіны за якой ішла ўжо больш высокая і сухая мясцовасьць.

Трэба толькі было перайсьці на той бок. Але гэта можна было зрабіць толькі ў адным месцы, дзе якраз стаяла чарада нейкіх зьвяроў, нязграбных з доўгай галавой, стаячымі вушамі, маленькімі вочкамі і з падоўжанай верхняй губай. Іх можна было-б палічыць або за сьвіней, або за маленькіх сланоў.

Гэта былі тапіры, якія цяпер захаваліся толькі яшчэ ў паўднёвай Амэрыцы.

Людзі спыніліся і ня ведалі, што рабіць. Вопыт і пачуцьцё ім паказвалі, што гэта ціхамірныя жывёлы, а не драпежныя. Але хто іх ведае, што яны там сабе думаюць.



Кожнай „сьвіньні“ павінен быў чалавек даваць дарогу...

Пастаялі, паглядзелі: здаецца нічога. Тапіры стаяць сабе спакойна і, нават, не звaрачваюць увагі на людзей. Можна спробаваць.

Асьцярожна пасунуліся наперад, вось ужо падышлі зусім блізка. Тыя стаяць сабе, з цікавасьцю паглядваюць на людзей,—а самі ані з месца.

Нічога ня зробіш, прышлося абмінаць іх. А дзеля гэтага патрэбна было ўлезьці ў балота блізка што па шыю.

Кожнай „сьвіньні“ павінен быў чалавек даваць дарогу, ды яшчэ радавацца, што яго не чапаюць.

Толькі што яны перабраліся на той бераг, як з боку нешта затрашчала і з гушчары проста на іх выбег наса-

рог. Ён быў раззлаваны, цяжка дыхаў; у баку была глыбокая рана, адкуль бегла кроў. Адразу відаць было, што ён толькі што вырваўся з нейкай бойкі. А ў такіх выпадках ён нападае на ўсякага, каго ні сустрэне.

Не пасьпелі нашы людзі апамятацца, як насарог, схіліўшы галаву, кінуўся на іх. Раздаўся дзікі крык, усе кінуліся, хто куды. Большасьць разам апынулася на дрэвах.

Але адна жанчына з дзіцём не пасьпела...

Насарог падхапіў яе сваім страшэнным рогам і так кінуў яе праз сябе, што яна адляцела далёка і стукнулася яшчэ галавой аб дрэва. Дзіцянё адарвалася ад яе і ўпала перад зьверам. Насарог растаптаў яго нагою і пабег далей.



Насарог падхапіў яе сваім страшэнным рогам...

Калі ўсё сьціхла, людзі зьлезьлі з дрэў і абступілі няшчасную жанчыну. Разумеецца, яна была ўжо мёртвая. Бок яе быў зусім разадраны і адтуль вылазілі кішкі. Галава ўся скрываўлена.

Напружана глядзелі людзі на гэту ахвяру, краталі яе, варочалі галаву, рукі. Такая сьмерць на іх вачох, відаць, адбілася на іх мазгох; відаць было, што яны нешта перажывалі, адчувалі, думалі...

Гэта быў для іх, так сказаць, штурх, які прымусіў іх больш папрацаваць пачуцьцём і мазгамі. З гэтага боку і няшчасны выпадак быў для іх карысны.

Але такая нязвычная ўнутраная праца не магла ў іх доўга цягнуцца. Хутка яны зноў сталі абыякімі да ахвяры, адвярнуліся і зараз-жа забыліся аб здарэньні.

Нават аб дзіцяці ніхто не пацікавіўся, затым толькі, што яно ляжала далей і ня трапіла ім на вочы.

Лес парадзеў, і нашы падарожнікі вышлі на палянку ля крыніцы. Тутака зрабілі прывал. Ніхто ня ведаў, што з іх гуртка траіх ужо не хапае.

Адны селі адпачываць, другія зноў пашлі „пасьвіцца“, трэція падышлі да крыніцы напіцца. Там яны лажыліся на

жывот і цягнулі ваду. Наогул яны баяліся вады і толькі які-небудзь надзвычайны выпадак мог прымусіць іх лезьці ў яе.

Тым часам павадыр з адным з сваіх таварышоў (будзем зваць яго Краг), адышлі далей у бок, каб пасачыць якой здабычы.

З правага боку, бліжэй да крыніцы, быў густы зарасьнік, з левага—рэдкі лес. У вадным месцы яны заўважылі, што праз зарасьнік, у напрамку да крыніцы, ідзе сьцежка. Відаць было, што яе зрабілі зьвяры, якім трэба было хадзіць на вадапой.

Быццам мімаволі яны спыніліся на гэтым месцы і сталі азірацца, чагосьці чакаючы. Пачуцьцё ім падказвала, што тут хто-небудзь павінен прайсьці.

І, запраўды, праз некаторы час яны заўважылі, што ў лесе здалёку набліжаюцца нейкія жывёлы, падобныя да аленяў, толькі з маленькімі рагамі. Яны відавочна накіроўваліся ў гэты бок.

Павадыр схіліўся, настаражыўся. Потым штурхануў за руку свайго таварыша, і абодва яны схаваліся ў кустох. Прыціхлі і сталі чакаць.

Жывёлы набліжаліся спакойна, але каля кустоў пярэдні раптам спыніўся і да чагосьці стаў прыслухоўвацца. Паляўнічыя пачалі ўжо баяцца, што яны ўцякуць.

На шчасьце, вецярок падзьмуў у другі бок. Алені больш нічога не адчувалі і, супакоіўшыся, пашлі па сьцежцы.

Зараз-жа павадыр кінуўся да пярэдняга на шыю, з страшэннай сілай сьціснуў рукі і нават яшчэ ўчапіўся за шыю зубамі. Алень скокнуў у бок, але чалавек крэпка вісеў на шыі. Зараз падскочыў Краг, ухапіў аленя за галаву і стаў яе круціць. Пальцы яго разадралі храпу, выціснулі вока ў аленя—і абодва чалавекі пакаціліся з аленем на зямлю, але ні на адзін момант не адпускалі сваіх рук.

Алень абараняўся з астатняй моцы, кусаўся, біў нагамі і нават параніў павадыру бок капытом, але нішто не памагло. Яны ўсё болей і болей задзіралі галаву ўверх і разам з тым, круцілі ў бок. Урэшце косьці шыі хруснулі, рухі аленя сталі слабець—і ён сьціх...

Тады абодва падняліся, выпрасталіся і з грудзей іх вырваўся зычны крык перамогі.

На гэты крык зьбегліся ўсе другія і ўгледзіўшы такую багатую здабычу, пачалі скакаць і крычаць ад радасьці. Твары іхнія страшна корчыліся; гэта азначала іх радасьць і сьмех.

Нялёгка было голымі рукамі забіць аленя, але і ня лягчэй было разабраць яго. Каля аленя пачалася страшэнная вазьня. Кожны стараўся як найхутчэй ухапіць сабе кавалак, але... як гэта зрабіць?



... з грудзей іх вырваўся зычны крык перамогі.

Адны пробавалі разадраць скуру кепцямі, другія зубамі, трэція стараліся адламаць ногі. Яны штурхаліся, агрызаліся і здавалася, што, вось-вось, не на жарт паб'юцца.

Патроху ў некалькіх мясцох яны зрабілі дзіркі зубамі. Потым з вялікім трудом дралі рукамі. Скура была моцная,

мокрая, вырывалася з рук, і людзі, што цягнулі яе, часта ляцелі ўверх нагамі. Тады зноў пашыралі дзірку зубамі.

Але справа ня стала лягчэй і тады, калі яны дабраліся да мяса. Усё роўна адрываць яго рукамі было вельмі цяжка. Усё роўна прыходзілася больш працаваць зубамі.

Жудасна было глядзець на „баль“ гэтых істотаў. У гэты момант, здаецца, зьнікла і тое нямногае чалавечае, што ў іх было. Дзікі погляд, выскаленыя зубы, скрываўленыя морды і рукі, і застыўшыя кавалкі крыві на шэрсьці...

Рэдка ім, бязбройным, здаралася такое шчасьце, і яны стараліся спагнаць тыя галодныя дні, якія ў іх былі так часта.

Вось патроху ўсе наеліся, супакоіліся. І разам з тым, здаецца, зьмяніўся і іх выгляд. І погляд, і выраз, і кожны рух сталі іншымі. Зноў стала відаць, што гэта ўсё-ж такі людзі.

І зусім зразумела: нават і ў наш час галодныя людзі робяцца падобнымі да зьвяроў. Чаго-ж хацець ад гэтых?

Толькі вось крывавыя твары і наогул кроў на целе рабіла няпрыемнае ўражаньне. Гэта нават адчувала і адна дзяўчына, гадоў пятнаццаці, крыху зграбнейшая за другіх. Яна ўвесь час старалася адцерці гэтую кроў. Потым, падышоўшы да крыніцы напіцца, яна неяк папробавала церці мокрай рукой і зараз-жа заўважыла, што кроў лягчэй адстае. Тады яна яшчэ і яшчэ стала церці і такім чынам абчысьціла сабе рукі, грудзі, але... твар яна не дамысьлілася абмыць, бо ня бачыла яго. І наша першая красуня, хоць і стала чысьцейшай за другіх, але так і засталася з крывавым тварам.

Гэты дзень яны скончылі зусім „пачалавечаму“. Яны былі пад'еўшы і спакойныя, што рэдка здаралася ў іх жыцьці. Яны не адчувалі цяпер ні холаду, ні голаду, ня бачылі небясьпекі. Ім ня трэба было ўжо думаць аб ежы, яны ўжо мелі вольны час.

І цяпер яны ўжо не сядзелі так моўчкі і сумна, як раней. Яны хадзілі і паглядалі, то за тым, то за другім. Ад часу да часу яны звараліся адзін да другога з нейкім гукам, нібыта словам.

Праўда, не заўсёды сусед разумеў, што хацеў выказаць яго таварыш, але гэта не вялікая бяда. Добра ўжо тое, што яны перакідваліся гукамі, што пробавалі выказаць сваё ўражаньне.

Вось блізка над галавой з шумам праляцеў бусел. Ча-

лавек паглядзеў і ў яго неяк сам праз сабе вырваўся гук— „жу“. Сусед яго таксама заўважыў птушку і таксама мімаволі сказаў „жу“. І вось яны абодва ўжо зразумелі адзін другога, абодва ведаюць, што гэта ўжо „жу“ азначае, вось, гэту лятучую рэч. А калі пасьля гэтага праляціць нейкі шпак, то яны таксама могуць сказаць „жу“.

Праўда, можа ў гэты самы час другія два чалавекі выдалі другі гук, другое „слова“, можа яны сказалі „гу“. Але гэта ня шкодзіць, бо ўсё роўна і ў тых, і другіх гэтае слова зараз-жа выляціць з галавы, і трэці раз яны дадуць ужо зусім новае слова.

Адзін, другі, трэці, дзесяты раз так здарыцца, але ўрэшце ўсё-ж такі застанецца нейкае слова, якое ўхопяць ужо больш людзей, якое потым будуць усе ведаць. Гэтае слова будзе ў іх азначаць наогул усё тое, што ляціць.

Гэта была вельмі вялікая „культурная праца“. Каб набыць адно-два словы, патрэбны былі цэлыя гады. Бо ўвесь час яны павінны былі думаць толькі аб тым, як перажыць ці голад, ці бяду.

Праўда, гэтая бяда таксама была карыснай, бо прымушала іх мазгі напружвацца, каб знайсьці выйсьце з бяды. Але-ж усё павінна быць умеру.

Тым часам падыходзіў вечар, ціхі, мяккі. Можа першы раз у сваім жыцьці нашы людзі маглі зьвярнуць увагу на прыгожасьць прыроды: і на ружовы колер захаду, і на стройныя кіпарысы, якія выразна адзначаліся пры сьвеце, і на першыя зоркі, якія адбіваліся ў вадзе.

Вось паказаўся месяц. Ён таксама здаваўся сёньня задаволенаму чалавеку нейкім ласкавым і добрым. Людзі сачылі за ім вачыма, і думка іх, якой-бы яна яшчэ ня была, усё-ж такі падымалася крыху вышэй і далей ад штодзённых клопатаў. У глыбіні душы нараджалася, больш высокае чалавечае пачуцьцё.

Адным словам, увесь гэты добры і спакойны вечар зьяўляўся ўжо для іх, так сказаць, практыкаваньнем, маленькім крокам да будучага чалавека.

Пад такім уражаньнем яны сёньня і на дрэва ня лезьлі, а таксама пaляглі спаць тут-жа, пад кустамі, на сухім беразе крыніцы.

Ня ведалі яны, што ня доўга будзе для іх такое шчасьце...

## III

Напад гіэнаў. Барацьба за здабычу. Мастадонты. Засталіся людзям „рогі ды ногі“. Чарапаха. Вялікія вынаходкі, якія засталіся незаўважанымі. Чалавек у багне. Бойка насарога з махайродамі.



НОЧ праходзіла. Людзі спакойна сабе спалі і ня чулі, што нешта набліжаецца. Ужо некаторы час здалёка адчуваліся нейкія няпрыемныя галасы, нібы гаўканьне, нібы рогат. Гукі паўтараліся, станавіліся ўсё бліжэй і бліжэй, але ніхто з людзей іх яшчэ ня чуў.

Прашло яшчэ некалькі хвілін,—і, вось, у цемнаце замільгалі фігуры нейкіх жывёлаў, трохі падобных да сабакаў, але больш прыткіх, з тоўстай шыяй, з нахіленай назад сьпіной. Уздоўж усёй сьпіны тарчала нібыто грыва, а папярок бакоў відаць былі нейкія палосы.

Гэта былі гіэны, якія і цяпер жывуць, галоўным чынам, у Афрыцы. Гэтыя агідныя зьвяры кормяцца больш усякай падлаю і рэдка нападаюць на людзей, нават, калі яны і сьпяць. Гіэны пачулі аленяў труп і асьцярожна сталі падбірацца да яго. Адзін за другім падышлі і пачалі цягаць з грызьці.

Бурчэньне і хруст разбудзілі людзей. Яны трывожна закрычалі і паўскаквалі на ногі.

Гіэны спалохаліся і адбегліся назад.

Людзі сабраліся каля аленя і нарыхтаваліся абараняць сваю здабычу.

Але гіэны разласваліся і не хацелі адыходзіць; яны толькі зайшлі з другога боку і зноў пачалі набліжацца. Вось яны ўсё бліжэй і бліжэй, вось ужо відаць гарачыя вочы, чуецца скрыгат зубоў, вось ужо засталося некалькі крокаў...

Што было рабіць няшчасным бяззбройным людзям? Адыйсьці і аддаць сваё багацьце? Не, гэтыя зьвяры не такія ўжо страшныя, каб адступацца ад іх. Лепш з кулакамі і зубамі распачаць з імі барацьбу...

І ўсе разам, быццам дагаварыўшыся, кінуліся яны на разбойнікаў. Напад быў такі грозны і шумны, што гіэны перапужаліся, завярнуліся назад і зьніклі ў цемры.

Лёгка ўздыхнулі нашы людзі. Посьпех надаў ім бадзёрасьці і сьмеласьці. Лішні раз яны пераканаліся, якую перавагу дае дружны агульны наступ. Да гэтага часу толькі гэта адно іх і падтрымлівала, замяняла ім зброю.

Але гіэны зусім яшчэ не пашлі. Праз нядоўгі час яны зноў пачалі набліжацца, праўда, больш асьцярожна і павольна, але няўхільна. Калі падышоў крытычны момант, іх зноў таксама прагналі.

Так было некалькі разоў. Усю ноч гіэны трымалі людзей у страсе, у аблозе.

Набліжалася сьвітаньне. Становішча не зьмянілася.

Вось з лесу пачуўся новы шум, як быццам набліжалася цэлае войска. Трашчала гальлё, ламаліся дрэвы. Вось ужо відаць, што йдуць нейкія вялізарныя зьвяры, падобныя да сланоў. Яны йшлі якраз ў гэты бок, відаць на вадапой. Гіэны адышлі крыху далей, а людзі пабеглі назад. Але, убачыўшы, што зьвяры не зьвяртаюць на іх аніякай увагі, людзі супакоіліся, спыніліся і сталі глядзець, што будзе.

Жывёлы гэтыя, хоць і падобны былі да нашых сланоў, але былі больш за іх, прынамсі, у два разы. Даўжыня іх цела дасягала 8—10 мэтраў. Галава іх была даўжэйшай, чым у сланоў, а хобат значна карацейшы. Галоўнай-жа адзнакай былі біўні, клыкі. Іх было чатыры, зьверху і зьнізу па два; яны былі роўныя, тарчалі проста наперад, як калы, прычым, ніжнія былі кароткія, а верхнія мелі 3—4 мэтры даўжыні.

Гэта былі так званыя мастадонты, якіх цяпер ужо няма на сьвеце. І мусіць, аднэй з галоўных прычын іхняга зьнікнавеньня і былі гэтыя недарэчныя клыкі, якія перашкаджалі ім браць яду. Яны маглі браць толькі тое, што знаходзілася ў паветры, вышэй ад зямлі, напрыклад, лісьце, плады. З зямлі яны нічога не маглі ўзяць, бо клыкі-калы ўпіраліся ў зямлю, і, нават, хобат ня мог дапамагчы, як да-

памагае нашым сланом, бо хобат мастадонта быў карацейшы за верхнія біўні.

Параўняўшыся з трупам аленя, пярэдні мастадонт падхапіў яго сваімі клыкамі і кінуў далёка ў бок. Зараз-жа падскочылі гіэны і разарвалі яго на кавалкі.

А людзі павінны былі толькі глядзець, як гэтыя стварэньні даканчвалі іх яду, так цяжка здабытую.

Мастадонты напіліся і прашлі назад, а гіэны тым часам зусім скончылі аленя, пакінуўшы людзям толькі „рогі ды ногі“.

Зноў прыходзілася пераходзіць на падножны корм; зноў цэлыя дні траціць на шуканьне рознае, больш-менш страўнае, дробязі.

Скончылася сьвята, зноў пачаўся будзень. Такі выпадак, як здабыча цэлага аленя, мог здарыцца ня хутка, можа праз шмат месяцаў.

Зноў разышліся ва ўсе бакі, зноў пачалі лавіць жукоў, чарвякоў і розных дробных жывёлаў, зноў пачалі шукаць плады, лісьце і карэньні.

Гэтыя карэньні яны вядома выкопвалі рукамі і толькі ў тых выпадках, калі гэта лёгка было зрабіць. Калі цяжка— яны кідалі і шукалі другога.

Але здараліся такія выпадкі, калі ежы было мала і шкода было кідаць. Тады яны больш тузаліся над ім. Адна жанчына, капаючыся такім чынам, неяк няўмысьля ўхапіла трэсачку і пачала капаць ёю. Яна адразу пачула, што праца йдзе значна хутчэй і лягчэй. Тады яна такім спосабам выкапала і другі корань.

Але калі яна перашла на другое месца, то ўжо і забылася аб сваёй вынаходцы. Яна не дамысьлілася ні ўзяць з сабой сваёй прылады, ні пашукаць тамака іншае і таксама капалася, як і раней.

Бывалі і з другімі такія самыя здарэньні і таксама яны канчаліся нічым. Чалавек блукаўся каля самага вялікага моманту свайго жыцьця, таго моманту, калі ён вось-вось пачне карыстацца прыладай і гэтым самым адразу выперадзіць усе другія стварэньні на зямлі.

Але ня так гэта лёгка і хутка робіцца, як здавалася-бы. Нядарма-ж да гэтага часу аніводная жывёліна не навучылася сьвядома карыстацца прыладамі.

Дзеля гэтага трэба ўмець наглядаць і рабіць вывады набудучае. А гэта і мы з вамі не заўсёды ўмеем рабіць.

Аднаго разу нашы людзі ўбачылі нейкую жывёліну, роўную, круглую. Яна паўзла па зямлі так павольна і нязграбна, што людзі зараз-жа заўважылі, што яна не пашкодзіць ім. Гэта была наземная чарапаха [1]).

Людзі абхінулі яе, сталі разглядаць, але яна зараз-жа спынілася, уцягнула ў сябе галаву, лапы і хвост і перастала варушыцца. Пакраталі яе—цьвёрдая, як камень, падступіцца нельга. Спрабавалі ўсадзіць руку ў дзірку—драпаецца.

Тады той хлапец, аб якім мы раней казалі,—будзем зваць яго Ра,—неяк узяў галіну і сунуў яе ў дзірку. Чарапаха заварушылася, высунула ногі і галаву і пасунулася наперад проста на хлопчыка.



Гэта была наземная чарапаха.

Той спужаўся, падняў уверх руку з галінай і... выцяў ёю чарапаху па сьпіне. Раздаўся крэпкі гул—і сухая галіна разьляцелася на кавалкі.

Чарапаха зноў схавалася. Так і гэтак пробавалі да яе приступіцца, але хутка пераканаліся, што нічога з ёю ня зробіш,—і пакінулі яе. І ніхто ня ведаў, што на іх вочах адбылося самае вялікае дзеяньне ў гісторыі ўсяго чалавецтва: чалавек першы раз падняў узброеную руку на зьвера.

І гэта вялікае дзеяньне так і засталося незаўважаным, так, пакуль што, і не дало аніякіх вынікаў, бо не дало беспасрэднай карысьці.

Па дарозе ім прышлося абмінаць вялікае дрыгвяное балота. Яно было заросшае травой, зялёнае, як луг, але ка-

[1]) Чарапах цяпер маецца яшчэ многа (каля 200 парод), нават і на Беларусі. Але асабліва вялікія (да 12 пудоў) і рознастайныя маюцца ў цёплых краінах. Яны бываюць вадзяныя і наземныя. Размнажаюцца яечкамі. Жывуць вельмі доўга: гадоў 200. Могуць доўга трымацца без яды: да $1^1/_2$ г., а ў адным выпадку было 6 год. Калі адрэзаць галаву чарапаха можа яшчэ жыць 2 тыдні. Мяса яе лічыцца вельмі смачным.

лі толькі хто пробаваў ступіць туды нагой—зараз-жа яго зацягвала балота.

У некалькіх кроках ад берага, на купіне стаяў бусел і спакойна глядзеў на людзей, як быццам ведаю ы, што яго



Але... людзі стаялі і глядзелі. або мятусіліся бяз сэнсу.

нельга патрывожыць, бо ня дойдзеш да яго. Краг ня вытрымаў і кінуўся да яго. Бусел узьляцеў, а чалавек увяз у балоце і стаў апускацца ўсё глыбей.

Людзі ішлі міма і не зварочвалі на яго ўвагі.

Краг убачыў, што справа дрэнная і пачаў трывожна крычаць. Трывога перадалася другім. Людзі згрудзіліся на беразе, замятусіліся, махалі рукамі. Некаторыя пробавалі падыйсьці да Крага, але зараз-жа павінны былі вярнуцца назад.

Краг біўся, капашыўся, але паступова, няўхільна апускаўся, усё глыбей і глыбей. Прашло некалькі хвілін, марудных, цяглых. Людзі стаялі, глядзелі і пачалі траціць цікавасьць. Некаторыя ўжо адвярнуліся ў другі бок, другія адышлі. Можна было чакаць, што ўражаньне аслабне і яны зусім зьнікнуць.

А небарака тымчасам апусьціўся да плеч.

Блізка ад яго ляжала сухая верхавінка маладога дрэўца, якое зламалася і ўпала адным канцом на балота, а другі застаўся на беразе. У астатні момант Крагу ўдалося ўхапіцца за гэтую верхавіну і ён пацягнуў яе да сябе.

Другі канец заварушыўся, як быццам запрашае пацягнуць яго. Але... людзі стаялі сабе і глядзелі, альбо мятусіліся бяз сэнсу. І толькі праз некаторы час павадыр ухапіўся за канец і стаў цягнуць. Тады ўжо і астатнія прынялі ўдзел.

Але ня лёгкая справа выцягнуць чалавека з багны. Цягнулі ўсе, хто толькі мог зачапіцца. І па іх тварам відаць было, што ня толькі фізычнай сілай яны працуюць, але і галавой. Яны адчувалі вялікі сэнс гэтае справы і навочна бачылі карысьць гэтае жардзіны, як прылады.

Вось ужо выцягнулі да пояса. Краг трымаўся зялезнымі рукамі за збавіцельную верхавінку і... вось... яна адламалася... Людзі пакаціліся на зямлю, ня ведаючы, што здарылася. Потым падняліся, неўразуменна сталі азірацца адзін на другога, ня ведаючы, што рабіць.

А Краг тымчасам зноў пашоў уніз. Вось ужо па шыю... вось ужо да падбародка... вось ужо і рот у грязі, і крыкі сьціхлі... толькі вочы глядзяць сьмяртэльным поглядам, просячы сваіх братоў аб ратунку...

Настаў самы крытычны момант. Ці здагадаюцца нашы людзі зрабіць тое, што яны павінны зрабіць?

Можа цяпер хто-небудзь з нас усьміхнецца над такім пытаньнем, але хай ён памятае, што каля яго напэўна ёсьць шмат чаго такога, чым ён сам таксама ня можа дамысьліцца

карыстацца і што для другога, больш ведаючага, таксама будзе сьмешным.

Выратавала жаночае сэрца. Агу, тая самая дзяўчына, аб якой мы казалі, з нейкім натхненьнем кінулася наперад, ухапіла жардзіну і працягнула яе да рук Крага.

Тады ўжо ўсе ўхапіліся і з вялікім усілкам выцягнулі няшчаснага з багны. Ён быў блізка што няпрытомны і доўга яшчэ, лежачы на сухім беразе, трымаўся за канец дрэва.

Відаць было, як усе былі здаволены і ўважліва дагля-далі за пацярпеўшым.

Ня меншай увагай карысталася і „ратункавая прылада". Дзеці цягалі яе і так і гэтак, урэшце, зусім зламалі і доўга яшчэ махалі дубцамі, ня ведаючы, што ўжо гэтая самая гульня ёсьць вялікае дасягненьне.

Нават павадыр зьвярнуў на гэтае ўвагу, узяўся за дубец, патрымаў яго, але, ня ведаючы што за ім рабіць, кінуў на зямлю.

Зноў яны падышлі к вялікаму моманту і зноў прайшлі міма...

Тым часам Краг зусім адышоў, падняўся і адчуваў сябе досыць добра.

Але, каб людзі ўмелі сьмяяцца, яны ня ўтрымаліся-б ад сьмеху, гледзячы на Крага. Сярод сваіх касматых братоў ён адзін быў „гладкі": ліпучая гразь, пакрыўшая яго цела, цяпер засохла і надала яму такі выгляд, што нават ня ўмеючыя сьмяяцца неяк зьдзіўлена глядзелі на яго і крывілі свае морды.

Пацягнуліся далей. Мінулі балота, зноў увайшлі ў густы лес. Павадыр пільна азіраўся, бо ён ведаў, што ў гушчары заўсёды можна чакаць неспадзяванае небясьпекі.

І запраўды: ня мінула і гадзіны, як раздаўся асабліва зычны і трывожны крык павадыра. Адразу ўсе замятусіліся і, нават ня ведаючы яшчэ адкуль і якая пагражае бяда,— апынуліся на дрэвах.

Тады толькі разгледзелі, што паміж дрэў мільгаюць нейкія рыжаватыя зьвяры, падобныя да нашых тыграў, толькі значна большыя. Гэта былі самыя страшныя драпежнікі ня толькі таго часу, але і наогул на зямлі. Завуць іх махайродамі. Апрача сілы, спрытнасьці і лютасьці яны адзнача-

ліся яшчэ сваімі вельмі вострымі клыкамі-кінжаламі, сантымэтраў 15—20 даўжыні, загнутымі і шчарбатымі.

Львы і тыгры перад імі былі нішто, але чамусьці гэтыя махайроды даўно ўжо згінулі і лічацца „дапатопнымі“, тады як слабейшыя ад іх львы і тыгры засталіся.

Астатнія людзі ледзь пасьпелі ўзьлезьці на дрэвы, як драпежнікі абхінулі іх. Махайродаў было штук 8—10. Відаць, яны былі вельмі галодныя, бо не адыходзілі ад дрэў, на якіх сядзелі людзі, увесь час пазіралі на іх і нават станавіліся на заднія лапы, каб дастаць да іх. Жудасна было глядзець як яны круціліся навокал.

Адзін з іх неяк падскочыў і зачапіўся пярэднімі лапамі і зубамі за ніжэйшую галіну. Ён круціўся, блытаўся, матаючы заднімі нагамі ў паветры. Людзі падняліся вышэй і са страхам сачылі за яго рухамі. Але, нарэшце, ён абарваўся і зваліўся на зямлю.

Другія прабавалі грызьці дрэвы, так, што трэскі ляцелі з-пад іх страшэнных клыкоў. Але мала-па-малу яны супакоіліся і палеглі пад дрэвам. Здавалася, яны парашылі чакаць, пакуль хто зьлезе...

Мінута, гадзіна, другая. Махайроды і ня думалі адыходзіць. А ад часу да часу некаторыя адыходзілі, зноў вярталіся. Відаць было, што яны зрабілі тутака прыпынак на доўгі час.

Яшчэ гадзіна прашла. Становішча людзей рабілася дрэнным.

Тады яны папрабавалі пашукаць іншага шчасьця; уцячы па дрэвах, як малпы.

Павадыр пералез на суседняе дрэва; за ім другія. Потым—на трэцяе. Горш за ўсіх было маткам з дзецьмі, але неяк перайшлі і яны. Але далей ужо было горш. Наступнае дрэва стаяла ня так блізка, каб усе маглі лёгка перайсьці. Спрытны Ра пераскочыў на суседнюю галіну, але яна так нахілілася і расхісталася, што другім няма чаго было і думаць пераскочыць.

Каб нашы людзі маглі разважаць, яны цяпер пашкадавалі-б, што мала падобны да малпаў.

Тымчасам махайроды пачулі шум у гальлі і кінуліся ў гэты бок. Няма чаго было рабіць, прышлося пакінуць свой плян...

Але вось у лесе пачуўся шум. Драпежнікі паўскаквалі і прыслухаліся. Сярод дрэў паказаўся насарог. Раптам махайроды кінуліся да яго і абхінулі з ўсіх бакоў.

Насарог глуха зароў, схіліў галаву і рынуўся на пярэдняга. Той адскочыў, а ў гэты самы момант чатыры пары клыкоў прабілі яго ў чатырох мясцох.

Страшны рэў пракаціўся па лесе, і насарог, як шалёны, пачаў кідацца ва ўсе бакі. З адчаю ён выявіў такую спрытнасьць, якой нават і нельга было чакаць ад гэтай аграмадзіны-волата. Але толькі аднаго ворага яму ўдалося разарваць сваім рогам, тады як сам ён атрымаў ня менш дзесятка ран.

Як ні страшэнныя былі гэтыя раны, але дзеля такой вялізнай тоўстаскурай жывёліны яны ня былі яшчэ сьмяртэльныя, бо не папсавалі ўнутраных органаў. Бойка цягнулася...

Насарог зьнішчыў яшчэ аднаго ворага, затое сам ён меў выгляд нейкай кучы мяса, якое кавалкамі вісела з усіх бакоў. Ён сабраў астатнія сілы і пабег наперад. Але хутка грукнуўся на зямлю, і на яго населі махайроды.

Тады толькі людзі асьцярожна зьлезьлі з дрэў і ціханька пайшлі далей.

## IV

Нянасьце. Прытулак у пяшчэры. Выгнаныя. Дзіўнае зьявішча. Агонь пагас!..

УЖО некалькі дзён цягнецца даждлівае надвор'е. Сонца выгляне на кароткі час і зноў хаваецца, не пасьпеўшы асушыць зямлю. Асабліва вільгатна і холадна ў лесе ноччу. Доўгія гадзіны сядзяць людзі дзе-небудзь пад дрэвам, прытуліўшыся адзін да другога, каб сагрэцца. Па ўсяму целу бязупынна цячэ вада; пад імі лужыны. А ноч цягнецца, цягнецца бясконца.

Надыходзіць дзень, таксама хмарны і дажджлівы, і прыносіць з сабой толькі голад. Бязмоўныя, хмурыя бадзяюцца яны навокал, здавальняючыся ўсім, што трапіць у рукі. Няма ўжо таго таварыства між іх, што зазначалася перад гэтым. Няма ўжо тых „гутарак“, рухаў. Мала ўжо чалавечага на іх зьвярыных тварах; усё часьцей і часьцей выбухае злосьць. Адзін раз з-за нейкай жабы ледзь адзін другому горла не перагрызьлі.

Паступова пачалі яны выходзіць з вільготнага лесу, накіроўваючыся ў той бок, дзе мясцовасьць узвышалася. Лес парадзеў, надвор'е крыху праясьнілася, і яны ўбачылі перад сабой інакшую мясцовасьць; замест лесу цягнуўся шэраг камяністых узгоркаў, сярод якіх было раскідана шмат вялізных скал. У некалькіх кроках ад іх дзьве такія скалы, наваліўшыся адна на адну, стварылі, нібы-та страху, ці будку, у якой можна была схавацца ад дажджу. І калі ў гэты момант зноў запырскаў дожджык—людзі, зразумела, накіраваліся ў гэту пяшчэру. З якой прыемнасьцю мокрыя, змораныя людзі разьмясьціліся ў сухой пяшчэры! Здавалася,

што яны адразу забыліся аб голадзе і аб холадзе, і аб усіх другіх ліхасьцях. Яны расьселіся і разьлягліся на сухой зямлі і можа першы раз у сваім жыцьці адчувалі сябе „як дома“.

А там на дварэ надвор'е разгулялася не на жарт. Асабліва злаваў вецер, які намерваўся перайсьці ў буру. Набліжаўся грукат грому.

Вось і каплі дажджу сталі дасягаць сярэдзіны пяшчэры. Тут толькі заўважылі, што з другога боку пяшчэры,



Гэта зьявіўся „гаспадар дому“.

крыху вышэй, таксама была дзірка, праз якую і даставаў дождж. Але бяда была невялікая: прытуліліся па кутках— і ўсё добра.

Бура тымчасам павялічвалася: гром грукацеў ужо над самай пяшчэрай. Але-ж затое, як прыемна было адчуваць, што цябе гэта ня тычыцца, што тутака суха і ціха, у той час як там...

Але вось на шэрым фоне ўваходу ў пяшчэру вызначылася нейкая вялікая цёмная маса, спынілася, быццам

зьдзіўленая,—пачуўся грозны, хрыплы крык. Гэта зьявіўся „гаспадар дому“, так званы пяшчэрны леў. Хаця нельга было назваць яго царом тагочасных зьвяроў, але для тагочасных людзей ён ва ўсякім разе быў цар.

Як ашалелыя кінуліся людзі ў другі канец пяшчэры, дзе на іх шчасьце было другое выйсьце. А сьледам за імі загрукацеў аглушаючы рык зьвера. Рык гэты напоўніў усю пяшчэру і заглушыў усё: і жудасныя крыкі людзей, і шум буры, і нават грук ад грому.

На другім-жа канцы людзі ў гэты момант ціскаліся, душылі адзін другога. Кожны хацеў уцячы першым. У правадыра ў гэты час зьявіўся чалавечы дух: ён адпіхнуў тых мужчын, якія заціскалі жанчын і дзяцей, зьменшыў натоўп, і, дзякуючы гэтаму, усе ў момант уцяклі. Гэтаму дапамагло яшчэ тое, што леў, ня ведаючы, якія там ворагі і колькі іх, крыху стрымаўся. А калі ён скокнуў, дык пасьпеў толькі крыху крануць астатняга чалавека.

Але ўсё-ж без бяды не абышлося. У гэтай мятусіне ў аднэй жанчыны высьлізнула з рук поўгадовае дзіцянё. Яно пішчала там у пяшчэры адно, а матка тулялася ля дзіркі, ня ведаючы, што рабіць. Сэрца яе разрывалася ад жалю; некалькі разоў яна пасоўвалася наперад, быццам намерваючыся кінуцца да льва. Але яна адчувала, што гэта будзе дарэмна. Тым больш, што яна засталася адна: другія ўжо ўцяклі.

Яны беглі ў лес, не азіраючыся. У іх вушах усё яшчэ стаяў страшэнны рык льва. Да гэтага далучаўся грукат грому і бліcканьне маланкі. Яны спыніліся пад шырокім дрэвам, цесна зьбіліся ў гурток і так стаялі, дрыжучы ад страху і холаду. Дождж ліў, як з вядра. У гэты час леў-пераможнік разьмяшчаўся ў сваім уласным доме. Ён нават не забіў дзіцяці, а толькі з цікавасьцю ўглядаўся да гэтага незнаёмнага здарэньня. Дзіцянё жалобна пішчала, махала ручкамі і ножкамі. Леў асьцярожна крануў яго, потым перавярнуў на другі бок. Дзіцянё пачало яшчэ больш крычаць.

Урэшце ўсё гэта абрыдзела льву і ён прыдушыў дзіцянё сваёй цяжкай лапай. Ён быў сыты, спакойны, у цяпле. Нішто яму не пагражала. Яму ня трэба было вельмі „ламаць“ галаву, каб пражыць. На гэтых нікчэмным двуногіх

істотаў, якія тут яму трапіліся, ён у другі раз нават не зьвярнуў-бы ўвагі.

Калі крык дзіцяці спыніўся, маці адышла ад пяшчэры і накіравалася ў той бок, куды пайшлі ўсе другія. Страта дзіцяці адчувалася ў яе сэрцы. Але куды горш стала, калі яна апынулася адна сярод цемры і буры. Яна ніколі ня была ў такім становішчы. Яны заўсёды трымаліся адзін другога. Толькі такім чынам яны ўсе і маглі існаваць. І ў гэтым была будучая перавага чалавека над такім сільным зьверам, як леў, які ніколі чарадой ня ходзіць.

Добра яшчэ, што нашы людзі ад страху беглі проста і спыніліся пад першым дрэвам. Толькі такім чынам маці трапіла на іх; інакш яна-б загінула, як гэта ня раз здаралася ў іх жыцьці. Моўчкі далучылася яна да гуртка, на што ніхто не зьвярнуў увагі. Аб яе горы ніхто нават ня ведаў. Усе адчувалі толькі, што ім наогул дрэнна, паасобных-жа абставінаў яны сабе не ўяўлялі. Толькі ў 2-3 чалавек засталіся некаторыя вобразы аб мінулым здарэньні. Правадыр, напрыклад, уяўляў сабе страчаную сухую пяшчэру, у якой было так добра, і зьвера, які іх выгнаў. Відаць было, што некаторыя хваляваліся, варушыліся, злавалі, значыцца, нешта думалі аб тым, што адбылося.

І гэта быў надзвычайна вялікі знак: гэта значыла, што яны перажывалі ўражаньне ў адсутнасьці зблізку прычыны, яны маглі думаць аб тым, што ўжо было. А іх магутны вораг гэтага ня ўмеў. Ён мог думаць толькі аб тым, што ёсьць, што знаходзіцца перад яго вачыма. Аб розных адбыўшыхся падзеях яму ня прыходзілася думаць.

Хлопчык Ра тымчасам сядзеў на дрэве і ўжо ў працягу значнага часу сачыў за нейкім нязвычайным зьявішчам у лесе. Нешта белае, сьветлае мільгала далёка паміж дрэў. Хаця навокал было цёмна, але ў тым месцы з цемры выяўляліся дрэвы і здавалася варушыліся. Ра ня мог стрымаць цікавасьці, зьлез з дрэва і пачаў красьціся ў той бок. Сьвятло ўсё мільгала, дрэвы варушыліся.

Вось ён падышоў зусім блізка, і абамлеў ад страху і зьдзіўленьня. Сярод палянкі ляжала разьбітае маланкай вялізнае старое дрэва. Сухое дупло яго гарэла; языкі полымя віліся і лізалі дрэва. Навакол было сьветла і прытульна. Ра

схаваўся за дрэвам і доўга разглядаў адтуль гэта дзіўнае зьявішча. Падысьці бліжэй ён баяўся.

Але ўсё было так ціхамірна, спакойна, агонь так ласкава трашчаў, што Ра асьмялеў і вышаў з-за дрэва. Асьцярожна, бокам, стаў ён падыходзіць, рыхтуючыся зараз-жа ўцячы, калі гэта невядомае стварэньне задумае што-небудзь нядобрае.

Але „стварэньне“ зусім і ня думала кідацца на Ра. Наадварот, сваёю ласкавасьцю, прыемнасьцю, мяккімі рухамі яно быццам запрашала бліжэй да сябе. Ра падышоў зусім блізка і пачуў прыемную цеплату. Мімаволі працягнуў ён рукі над агнём і прастаяў так нярухома некалькі хвілін. Потым зьвярнуўся і пабег да сваіх.

Махаючы рукамі і паказваючы ў той бок, ён стаў клікаць туды старэйшых і ўсё казаў: „о, о!“ Тады і ўсе заўважылі ў тым баку ледзь значны сьвет і пашлі за хлопчыкам.

Таксама, як і Ра, яны спачатку боязна выглядалі з-за дрэў і не адважваліся падысьці, і толькo тады, калі Ра сьмела падышоў да агню і працягнуў рукі—тады толькі яны падышлі і абхінулі сабой агонь.

Можна сабе ўявіць, што павінны былі пачуць гэтыя прамокшыя і перамёрзлыя людзі!

Твары адразу ажывіліся, вочы заблішчалі. Морды скрывіліся ўжо так, што здавалася вось-вось блісьне ўхмылка. І палянка ўся ажывілася, зноў пачуліся галасы,—„гутарка“. Людзі весела жвава таўкліся ля агню. Маткі падымалі дзяцей на руках і працягвалі іх над агнём.

Нехта нават так асьмялеў, што спрабаваў ухапіць рукою за язык полымя, але зараз-жа закрычаў і пабег прэч, як шалёны. А за ім і ўсе астатнія... Паляна мігам апусьцела, толькі з-за дрэў асьцярожна выглядалі перапалоханыя людзі. Ды было чаго палохацца: аказваецца, што і гэта, здаецца, такая ласкавая і добрая істота, таксама кусаецца і нападае. А што, калі яна пагоніцца за імі?

Але агонь зусім і ня думаў гнацца за імі. Ён таксама варушыўся сабе на сваім месцы, таксама ласкава трашчаў, таксама сьвяціў і грэў навокал, таксама вабіў да сябе.

Людзі асьмялелі і адзін за другім асьцярожна сталі варочацца да агню. Зноў абкружылі яго, і ўзноў усё стала добра. Значыцца, уся справа толькі ў тым, каб не чапаць

яго. Ён гэтага ня любіць. Але сам, як відаць, нікому ня думае рабіць нічога дрэннага. Наадварот, яшчэ да гэтага часу яны не сустракалі аніводнага стварэньня, якое было-б такім добрым для іх, як гэта.

Сярод лясной цемры людзям было сьветла, цёпла: цела абсушылася. Разам з тым зьмяніўся ўвесь настрой. Яны ўжо зусім забыліся аб нядаўнім здарэньні і ўсёй сваёй істотай убіралі асалоду цяперашняга шчасьця.


Маланка разьбіла дрэва.

Людзі ўпяршыню бачылі і адчувалі агонь, той агонь, без якога чалавек ня быў-бы чалавекам. Пашана, удзячнасьць, страх, усе гэтыя пачуцьці нараджаліся ў іх сэрцы; тыя пачуцьці, якія і да гэтага часу захаваліся ў мільёнаў людзей перад тымі зьявішчамі, якіх яны яшчэ ня ведаюць.

А ў некалькіх кроках ад гэтага сьветлага месца прытулілася ноч, яшчэ болей цёмная, сярдзітая, вільготная і халодная. Яна пільнавала з-за дрэў і чакала, каб зноў абхапіць людзей...

Тымчасам пень дагараў. Паступова, няпрыкметна, але няўхільна агонь зьмяншаўся. Рабілася ўсё цямней і цямней і разам з тым усё халадней.

Несьвядомае непакойства аўладала людзьмі. Трывожна пачалі яны праціскацца бліжэй да агню.

Вось і полымя зьнікла. Ноч рынулася з лесу і захапіла палянку...

Але засталіся яшчэ вугольлі, якія крыху грэлі. На іх былі накіраваны ўсе вочы, да іх кожны стараўся праціснуцца. Гурток сьціскаўся ўсё шчыльней і шчыльней. Вось ужо задні нічога ня бачаць, але ўсё штырхаюцца наперад, не адводзячы вачэй з таго боку, дзе павінен быў быць ён, агонь.

Холад і вільгаць зноў абхапілі людзей, але пакуль што яны іх не адчуваюць.



Сярод лясной цемры людзям было сьветла, цёпла...

Прашло яшчэ некалькі часу, і—агонь пагас!..

Ціхае жалобнае стагнаньне разьнеслася па лесе... Гэта чалавек разьвітваўся з самым дарагім, што толькі мог мець.

І з вачэй яго выкацілася першая сьлязіна...

Тады ноч выпаўзла з-за дрэў і абхапіла палянку і людзей. Холад і вільгаць, да якіх людзі даўно ўжо прывыклі, цяпер здавалася інакшай, значна горшай. Ля абгарэлага пня, скорчыўшыся, сядзелі цёмныя фігуры...

І ў шырока расчыненых ад жаху вачох іх усё яшчэ адбіваўся Агонь...

## V

Разьвіцьцё і заняпад культуры. Няўдалыя сваякі. Пакінутыя хлопцы.



На другі дзень, разам з сонцам і цяплом, цяжкія перажываньні расьсеяліся, але ўражаньні ад мінулай ночы, відаць, яшчэ засталіся. Людзі не пайшлі далей, а ўвесь час круціліся ля абгарэлага пню, аглядалі яго, капаліся ў попеле. Колькі было цікавасьці і радасьці, калі яны заўважылі, што там, у сярэдзіне, захавалася яшчэ цяпло.

Лепш за ўсіх адчувалі сябе дзеці. Колькі розных рэчаў знайшлі яны сабе. Вугольле, трэскі, гальлё, дубцы, кіі і кіёчкі, абгарэлыя, гладкія. Хутка яны ўзброіліся,—хто трэскай, хто кіём, і пачалася гульня.

Маткі знайшлі сабе прытулак пад верхавінамі 2-х невялічкіх дрэў, схіленых зваліўшымся дрэвам. Тая жанчына-якая калісьці выкарыстала трэсачку для выкопваньня карэньняў, цяпер зноў пачала карыстацца гэтай прыладай. Гледзячы на яе, і другія жанчыны спробавалі, і тут пачалося сьвядомае карыстаньне першай прыладай.

Асабліва пашанцавала хлопчыку Ра. Яму трапіўся ў рукі вельмі ёмкі кіёк. Узяўшыся за танейшы канец, Ра адразу заўважыў, што руцэ нібыта надалася вага і моц. А калі ён неяк ударыў па галінцы, калі яна затрашчала, ды пасыпаліся лісьце,—тады ўжо яму зусім спадабалася гэтая цацка.

Ён пачаў стукаць сваім кіём па дрэве, гальлі, па зямлі, але ня скора яму ўдалося яшчэ раз стукнуць так, каб адчуўся добры ўдар. Ён яшчэ ня ўмеў ударыць, як трэба.

Дарослыя займаліся сваёй справай і нават не глядзелі на гэтую гульню. Вось скокнула жаба. Ра замахнуўся сваім кіём на яе. Зразумела, ня трапіў, але ўжо гульня была цікавей. Далучыліся другія дзеці і таксама стараліся штурхануць жабу трэсачкай ці галінкай. Абхінулі яе, пачуліся крыкі дзяцей, гульня зрабілася агульнаю і вясёлаю, толькі... ніхто не сьмяяўся, а гэтыя рэдкія гукі былі зусім непадобны да крыку і шуму нашых дзяцей.

Жаба паскакала далей у кусты, дзеці за ёй, але, раптам, усе кінуліся назад: яны заўважылі зьмяю. Праўда, яна была досыць маленькая, але гэтага стварэньня чалавек заўсёды баяўся.

І вось тут адбыўся новы найвялікшы крок чалавецтва. Ра падскочыў да зьмяі і сьвядома падняў кій, каб яе ўдарыць. Калі раней ён ударыў чарапаху так сабе, ня ведаючы. што і чаму ён робіць, дык цяпер ён ужо хацеў ударыць.



Ра падскочыў да зьмяі і сьвядома падняў кій, каб яе ўдарыць.

І ён трапіў ёй па галаве. Закруцілася зьмяя зашыпела так, што Ра спалохаўся і адбег назад. Але ўбачыўшы, што яна ня гоніцца за ім, а круціцца на месцы, ён зноў падышоў і пачаў біць.

На гэта здарэньне ўжо і старэйшыя зьвярнулі ўвагу.

Павадыр падышоў, узяў у рукі кій Ра, патрымаў, пакруціў, нават дакрануўся ім да зьмяі, але нічога асаблівага не пачуў. Дзеля яго, вялікага і сільнага, гэты кіёк быў вельмі малы. Таксама спрабаваў Краг і другія мужчыны і нават некаторыя жанчыны.

Сярод жанчын тымчасам не на жарт пачало разьвівацца „земляробства“. Яны ўсе ўжо калупаліся ў зямлі з дапа-

могаю трэсачак. І нават адыходзілі ў бок з трэсачкаю ў руках. Але рэдка хто з іх доўга трымаўся з сваёй прыладай; праз некалькі крокаў яны гублялі яе, забываліся і зноў працавалі, як „дзяды і прадзеды іх“.

Але ў даным выпадку вялікае значэньне мела тое, што людзі спыніліся на некаторы час на адным месцы. Згубіўшы і забыўшыся аб прыладзе, яны ўсё-ж такі вярталіся „дамоў“ і там зноў знаходзілі і прыпаміналі аб ёй. Шкода толькі, што яны доўга не маглі быць на адным месцы, што павінны былі шукаць і шукаць пажывы.

Пасьля „абеда“, калі людзі спакойна адпачывалі на палянцы, а Ра практыкаваўся з сваёй прыладай, павадыр зноў зацікавіўся тым, як ад удара кіём трашчаць галіны, сыпецца лісьце, ляцяць кавалкі.

Вось павадыру трапіў у рукі адпаведны кій: не даўгі і не кароткі, гладкі і досыць важкі. Ён пачуў, што гэты кавалак яму не перашкаджае, а наадварот, нешта такое надае.

І пасьля некалькіх спробаў яму ўдалося стукнуць так, што гальлё затрашчала і пасыпаліся трэскі.

Каб перад ім цяперака апынуўся які-небудзь зьвер, можна думаць, што чалавек здагадаўся-б яго ўдарыць сваім кіём, а так—ён пагуляў крыху ды пакінуў сваю зброю.

Нялёгка, нават немагчыма, было яму адразу ўразумець усё значэньне гэтай зброі. Дзеля гэтага ён павінен быў-бы разважаць прыблізна так: „Вось гэта рэч надае рукам сілу. Ёю можна абараніцца ад ворага і забіць здабычу. Трэ' было-б заўсёды мець яе пры сабе“...

Але так разважаць наш чалавек яшчэ ня мог, значыцца, і ня мог сьвядома выкарыстаць сваю вынаходку.

Так правялі яны на адным месцы ўвесь дзень зранку, не пасьпелі яшчэ людзі зьлезьці з дрэва, як заўважылі, што з суседняга дрэва на іх пазіраюць нейкія дзіўныя стварэньні. Яны былі вельмі падобны да нашых людзей, толькі больш рухавыя, асабліва морды, якія ўвесь час крывіліся так, нібы яны сьмяяліся або дражніліся.

Гэта завіталі да іх у госьці „мілыя сваякі“—малпы.

І тыя і другія пазіралі адзін на аднаго з вялікай зацікаўленасьцю. Здавалася, быццам усе яны адчувалі, што даводзяцца адзін аднаму нейкай раднёй.

Ва ўсякім разе відаць было, што яны ня ворагі адзін аднаму, загэтым яны паступова зблізіліся, перамяшаліся, пачалі аглядаць, кратаць адзін аднаго.

Аднэй малпе спадабалася наша красуня Агу. Ён так пачаў бегаць за ёй, што тая павінна была ўцячы ад аго на зямлю.



„Кавалер“ спусьціўся на зямлю і пашоў да Агу.

Скора людзям абрыдла гэта знаёмства, і яны адзін за адным спусьціліся ўніз.

Малпы засталіся на дрэве і мелі такі выгляд, быццам хацелі адзін аднаму сказаць: „Вось табе і раз!“ З зайздросьцю пазіралі яны на сваіх знаёмых, як тыя вольна хадзілі па зямлі, проста і цьвёрда трымаліся на дзьвюх нагах і лёгка ўладалі сваімі вольнымі рукамі.

Скраўджыны „кавалер“ захацеў таксама паказаць сябе, і спусьціўся на зямлю, стаў на дзьве нагі і пашоў да Агу.

Схіліўшыся, хістаючыся на кароткіх крывых нагах, абапіраючыся ў зямлю сваімі доўгімі рукамі,—ён меў такі

сьмешны выгляд, што дзяўчына спынілася і паглядзела на яго такім вокам, што ён адразу апусьціўся на свае чатыры рукі і паналокся назад, на дрэва.

А яна адвярнулася і горда пашла далей. Якім мы ня лічылі-б тагочаснага чалавека, а ўсё-ж такі малпа была яму не раўня.

Тымчасам людзі пакінулі стаянку і пашлі далей. А малпы доўга яшчэ ішлі побач з імі па дрэвах і сачылі за кожным крокам сваякоў...

Але і горды чалавек пашоў таксама з пустымі рукамі, як і прышоў. Усе яго вынаходкі, усе яго прылады засталіся на месцы.

Толькі Ра быў узяў з сабой свой кій, але праз некалькі крокаў згубіў яго і забыўся аб гэтым.

Аднойчы, калі яны разьмяшчаліся спаць. Ра заўважыў на суседнім дрэве нейкую будоўлю з гальля, нібы вялізнае гняздо. Зразумела, ён зацікавіўся і палез туды. Там ён сапраўды ўбачыў пакінутае малпаю гняздо. Прасторнае, прытульнае, прыбранае мяккім лісьцем,—яно зьяўлялася найлепшым прытулкам на нач. Ра разьмясьціўся там, як на ложку. Заўважыў гэта другі хлапец і таксама перабраўся да яго. Месца было досыць, і яны абодва праспалі там так, як ніколі ня спалі.

А калі прачнуліся,—нікога ўжо ня было...

Іхныя бацькі і браты, як заўсёды, прачнуліся рана, сабраліся і пацягнуліся далей. Лічыць яны ня ўмелі, памятаць кожнае не маглі,—так і пашлі сабе ня ведаючы, што двох згубілі...

---

## VI

Прытулак у рове. Волат з неба. Спажыва для ўсіх. Першая бойка са зброяй у руках. Раптоўная паводка. Ізноў бадзяньне.

ВОСЬ вышлі яны з лесу і ўбачылі перад сабой глыбокі і шырокі роў, размыты бягучай вадой. Цяпер унізе булькала толькі маленькая крыніца, але ў час дажджу яна буйна разьлівалася.

На беразе рова лес канчаўся, а на другім баку ішла ўжо бязьлесная мясцовасьць. Людзі спусьціліся ўніз і адразу заўважылі, што тутака яны могуць мець вельмі добры прытулак. Стромкі бераг рова ў адным месцы ствараў нібы страху. Можна было схавацца і ад дажджу і ад ветру. З другога боку ўвесь дзень грэла сонца, якому не перашкаджалі дрэвы. На два крокі ніжэй бегла чыстая вада. Адным словам, прытулак на славу.

Некалькі дзён пражылі яны на гэтым месцы. Хадзілі „на пашу“, ці на паляваньне і зноў зьбіраліся дамоў. Усё было-б добра, але з кожным разам прыходзілася адыходзіць усё далей і далей, бо спажывы блізка ўжо не хапала. Але покуль можна было, яны трымаліся на адным месцы.

Аднаго разу зранку іх разбудзіў нейкі грукат, быццам зямля трэслася. Часам сыпалася зямля на галаву. Шум гэты цягнуўся досыць доўга, то бліжэй, то далей, але адчувалася, што ён адбываецца ўверсе, над галавой.

Людзі ўстрывожыліся, пачалі прыслухоўвацца, але ніякай небясьпекі ня было відаць. І вось пачуўся страшэнны трэск, мільганула падаючая зьверху верхавіна дрэва, абвалілася зямля, а за ёй паляцела ўніз нейкая гара і завваліла роў.

Каб гэта адбылося на некалькі крокаў бліжэй—нашы людзі прапалі-б, а цяпер толькі некалькіх трохі засыпала ды дрэва закрыла іхнюю пяшчэру. Яно ўбілася верхавінай уніз, а вывернутае карэньне трымалася ўверсе.

Няма чаго і казаць, як перапалохаліся людзі! Але яны зусім скамянелі, калі выглянулі праз гальлё: гара варушылася, дрыгала, груды зямлі разьляталіся ў бакі, а спыненая крынічка паднялася і пералівалася праз гэтую грэблю, як вадаспад...

А наверсе тымчасам адбывалася наступнае:



Дынотэры падрыхтаваўся да абароны.

Па лесе ішла вялізарная жывёліна, вельмі падобная да мастадонта, толькі яшчэ большая, бяз хобата, а клыкі-біўні ў яе тырчалі ня ўперад, а проста ўніз. І гэта быў дынотэры (альбо дыноцэры), самы вялікі зьвер з пароды сысуноў, якія толькі былі на зямлі (ня лічачы вадзяных). У той час, аб якім тут гаворыцца, яны ўжо зьнікалі; можа, нават, гэта быў астатні.

На яго напалі вядомыя нам махайроды. Абараняючыся ад ворагаў, дынотэры ўсё адыходзіў, пакуль не падышоў да абрыва. Ён абапёрся задам аб дрэва, якое расло на самым беразе і падрыхтаваўся да абароны. Становішча яго было добрае, бо ён быў забясьпечан ад нападу ззаду.

Але... дрэва ня вытрымала, зламалася, і няшчасны зьвер паляцеў уніз разам з ім...

Дынотэры ляжаў на баку, поперак рова, крэпка сьціснуты з абодвух канцоў. Крыніца паступова размыла зямлю і зноў працерабіла сабе дарогу ўнізе, пад зьверам, як пад мастом. Але дынотэры быў жывы; некалькі нязначных ран ад клыкоў драпежніку яму не пашкодзілі. Ён біўся, хроп, але дарэмна...

Людзі павылазілі з-за свайго дрэва, хацелі ўжо падыйсьці, але раптам вярнуліся назад і схаваліся: у рове зьявіліся махайроды і набліжаліся да сваёй уласнай здабычы.

Тут пачалося нешта такое, ад каторага нават у нашых людзей сьціснулася сэрца. Махайроды накінуліся на жывога зьвера і пачалі яго рваць. А волат толькі дрыжэў, хроп і нічога ня мог зрабіць. У розных мясцох паразрывалі скуру, павыядалі мяса, а дынотэры ўсё яшчэ быў жывы, бо пры яго велічыні і таўшчыні гэтыя раны ня былі сьмяртэльнымі. І калі махайроды пад'елі і пашлі,—волат застаўся таксама жывы.

Тады падышлі людзі. Даўно яны ня елі мяса, голад прачнуўся, але нешта ўстрымлівала іх кінуцца на жывога зьвера. Прайшоў некаторы час, зьвер усё яшчэ быў жывы, і... паступова адзін за адным людзі прыступіліся да яго...

Добра яшчэ, што махайроды зрабілі пачын, бо інакш людзі ані ў якім разе не маглі-б прадраць скуры.

Але ледзь толькі яны пачалі „сьнедаць“, як зьявіліся гіэны. Гэтыя агідныя стварэньні здалёку чуюць, дзе можна пажывіцца і заўсёды пасьпеюць на частаваньне. Звычайна яны сядзяць збоку і чакаюць, калі дужэйшы зьвер (леў, тыгра) пад'есьць і тады толькі атрымоўваюць рэшткі.

А такіх мізэрных зьвяроў, як тагочасны чалавек, яны зусім не баяліся і не паважалі і адразу сунуліся наперад.

Вось тутака і дапамаглі ранейшыя спробы чалавека па ўжываньню прыладаў або зброі.

Правадыр і Краг ухапілі два сукі і... трэснулі на сьпіне незапрошаных гасьцей. У першы момант здавалася, што гіэны больш дзівіліся ад такога нязвычайнага зьявішча, чымся перапалохаліся. Ніколі яны гэтага ня бачылі!

Потым раззлаваліся і паляцелі ў сапраўдную бойку. Але цяпер ужо ня толькі правадыр і Краг, але ўсе, хто мог ухапіліся за зброю,—і гіэны павінны былі ўцякаць, пакінуўшы аднаго свайго забітага. Чалавек перамог!

Перамог ворага ў бойцы *з аружжам у руках!*

І гэтая перамога мела для ўсяго чалавецтва куды большае значэньне чым усе нашыя бойкі з гарматамі, танкамі, бомбамі і г. д.

Але новае здарэньне перашкодзіла як належыць усьвядоміць і замацаваць сваё набыцьцё.

Ужо некаторы час недзе грукацеў гром, але дождж прашоў міма.

Праз некаторы-жа час ізноў пачуўся нейкі гул, які ўсё набліжаўся ды набліжаўся. Крынічка стала павялічвацца, а праз хвіліну з завароту рова вылецела хваля вады. На момант яна спынілася ля дынатэрыя, закруцілася, паднялася. Вось труп заварушыўся, крануўся з месца.

Вада ўсё прыбывае, напірае, дабіраецца да людзей. Яны палезьлі на дрэва. Вада яшчэ вышэй. Вось дынатэры павярнуўся бокам і паплыў на дрэва, зачапіўся. Людзі сталі сьпяшацца вылазіць вон, некалькі чалавек вылезла, але дрэва ня вытрымала націску і адарвалася ад кораня і шуснула ўніз.

Вада панесла разам дрэва, людзей і гнілы труп зьвера...

Усё гэта зрабілася вельмі хутка, але ніякага няшчасьця ня здарылася. Вада таксама хутка прайшла, як і прышла.

Але „дом“ ужо быў сапсуты, вільготны, сьлізкі. Прыходзілася зноў ісьці бадзяцца...

## VII

Багаты куток. Бойка волатаў. Адраджэньне культуры. Напад кракадзіла. Цуд на рацэ. Вымушаны адыход.



ІДУЧЫ ўздоўж рова, наш гурток вышаў да шырокай ракі. Берагі яе былі даволі стромкія, і пад імі людзі знайшлі прытулак яшчэ лепшы за ранейшы. Тутака аб'ядналіся разам усе выгоды: і лес, і луг, які пачынаўся за ровам, і шырокая рака, і зарасьнік які стварыўся ў тым месцы, дзе раўчук нанёс шмат пяску. А на небасхіле відаць былі горы; над імі нібы хмары, нібы дым.

Добра разьмясьціўся наш народ пад выступам берага. Нават самая пяшчэра была не ля вады, а значна далей і вышэй, што давала магчымасьць быць далей ад непажаданых суседзяй, якія маглі быць у рацэ. Бязьлесны бераг над галавой не пагражаў ужо, што з неба зваліцца якое-небудзь страшыдла.

У гэтым кутку мелася ўсё, што трэба чалавеку: і лясныя плады, і стэпавыя зёлкі, і рыба ў вадзе, і лугавая жывёла, і нарэшце шмат птушак, якія капашыліся ў чаротніку.

Усё было, толькі ня было яшчэ ў чалавека ведаў, як усё гэта скарыстаць.

Але птушкі як кажуць, самі лезьлі ў рукі. Ніколі яны ня бачылі чалавека, ніхто на іх не паляваў, і яны зусім ня ведалі, што трэба сьцерагчыся гэтых дзьвуногіх зьвяроў.

Чаплі, качкі, грыцукі, журавы, чайкі капашыліся і лёталі цэлымі зграямі. Доўганогія флямінго стаялі на аднэй назе, як вартаўнікі, а сьмешныя гарбатыя пеліканы таўкліся, як дурні, на адным месцы.

Калі павадыр ухапіў аднаго пелікана, дык рэшта толькі крыху адступілася ў бок ды зьдзіўлена глядзела на тузаніну.

Праз некаторы час бераг пакрыўся пер'ем, як сьнегам, а пух насіўся воблакам. Добра пад'елі людзі ў гэты дзень. Але птушкам гэта не падабалася, і яны ўжо трымаліся далей ад незапрошаных гасьцей.



Флямінго.

Рэшта гэтага дню людзі спакойна адпачывалі, перакідваліся тымі словамі, якія ў іх быліназапасены. Да гэтага яшчэ далучылася слова, якое азначала разам усіх гэтых птушак, што тутака жылі. Падыходзілі да вады, схіляліся і паглядалі рыб, нават штырхалі адзін аднаго, паказвалі рукой і казалі нейкія словы, кожны па-свойму. Якое небудзь з гэтых слоў прышчэпіцца і будзе азначаць рыбу наогул.



Пелікан

Але вось перад імі высунулася з-пад вады страшэнная, доўгая і роўная галава з вялізным ротам і зубамі. Глядачы трывожна закрычалі і шарахнуліся назад. Гэта спалохала і кракадзіла, і ён зноў схаваўся пад вадой.

Ноччу чуліся нейкія гукі, тупат, нібы грукат, але зьмораныя людзі нічога ня чулі і праспалі спакойна.

Назаўтра яны зноў пайшлі на паляваньне за птушкамі, але справа была ўжо зусім іншая. Птушкі ўжо даведаліся, што гэта за прыяцелі такія і не чакалі ўжо пакуль іх возьмуць. Прышлося за імі бегаць, ганяцца, падняўся шум, гвалт, ад гэтага яшчэ большы спалох,—і нарэшце нашы паляўнічыя вярнуліся з адным фламінго, некалькімі маленькімі птушанятамі ды яйкамі.

Дадаўшы да гэтага жаб, сьлімакоў ды кареньняў аеру, пражылі дзень ня горш за ўчарашні. І зноў прыпомнілі аб прыладах, і вось адзін, вось другі пачалі ўжываць трэсачкі, чарапашкі, вострыя каменчыкі, асабліва-ж косьці, якіх шмат было супроць таго месца, дзе ўліваўся раўчук.

У гэтым месцы была нібы сьцежка, якая йшла ад лесу да ракі. Яна была таксама амаль што стромкая і вузкая але зьяўлялася адзінай дарожкаю, па якой можна было даступіцца да вады. І па зьвярыных сьлядох можна было бачыць, што зьвяры ёю карыстаюцца.

Некалькі разоў пасярэдзіне ракі пачынаўся шум, плюханьне, нібы сапеньне; потым пачынаў варушыцца нейкі вялізарны зьвер, але да берагу не падыходзіў. І гэты невядомы вадзяны зьвер рабіў на людзей мацнейшае ўражаньне чымся больш небясьпечныя лясныя драпежнікі, якіх прынамсі можна было бачыць.

І вось над вечар, калі людзі сядзелі ўжо ў сваёй пяшчэры, гэты зьвер вышаў з вады. Увайшоў у чаротнік, спудзіў птушак пачаў там валаводзіцца ды трашчаць. Гэта быў бэгэмот (гіпопотам), якіх і цяпер досыць у Афрыцы.

У гэты самы час па сьцежцы спускаліся на вадапой чатыры мастадонты. Убачыўшы такіх волатаў, бэгэмот хутка пайшоў „да дому“. Мастадонты ўвайшлі ў ваду, напіліся, пастаялі крыху і завярнуліся назад.

Ледзь толькі пярэдні ступіў на сьцежку, як зьверху зьявіліся два насарогі, якія таксама ішлі на вадапой.

На вузкай сьцежцы такія волаты не маглі ні разьмінуцца, ні заварачіць назад. Стычка была немінучая, тым болей, што насарогі заўсёды ахвотнікі пабіцца.

Пярэдні насарог, спускаючыся ўніз, нават неспадзявана для сабе самога апынуўся між двух мастадонтаў. Нядоўга

думаючы, ён схіліў галаву ў бок і запусьціў два страшэнныя рагі ў чэрава мастадонта. Той зароў так, што, здаецца, зямля ўздрыгнулася,—і прысеў на заднія ногі.

Затрубілі другія мастадонты[1]) зараўлі абодва насарогі, рэха пакацілася па ваколіцах, людзі забіліся ў кутох і ня дыхалі.

Тым часам, задні мастадонт ужо ўсадзіў свае сажнёвыя біўні ў шыю насарога, і той зваліўся побач з параненым мастадонтам. Апошні насарог, убачыўшы, што ён застаўся адзін супроць трох, пачаў заварачвацца, каб уцячы, але ў гэты момант дзьве пары біўняў распаролі яму бок.

Разбойнікі былі пераможаны. Паранены мастадонт сядзеў на задніх нагах і стагнаў. Таварышы круціліся ля яго, абнюхвалі, краталі хобатамі, нібы стараліся дапамагчы ўстаць.

Але ён слабеў усё больш і больш. Вантробы яго вылазілі... Праз некаторы час ён грукнуўся на зямлю.

Доўга яшчэ стаялі ля яго мастадонты, а потым сумна пайшлі ў лес.

А на месцы бойкі засталіся нібы горы ад трох волатаў

А потым выпаўз кракадзіл; зразумела, аднекуль зьявіліся і гіены.

І ўсю ноч спалоханыя людзі чулі бурчэньне і тузаніну ля трупаў.

А назаўтра ўжо прышоў і іх чарод.

І зноў настаў час, калі ня трэба было клапапіцца аб спажыве. Можна было зьвярнуць увагу і на забаву. Так напрыклад, амаль ня ўсе мужчыны абралі сабе добрыя цацкі з касьцей, мусіць такіх зьвяроў, як гэтыя загінуўшыя. Бо цацкі гэтыя былі вялізнымі ёмкімі кіямі, з якімі мужчыны амаль не разлучаліся, і такім чынам, прывыкалі мець пры сабе сталую, пэўную зброю.

Для рэзаньня мяса ўжывалі вострыя каменчыкі, косьці і чарапашкі, але самае галоўнае—*сьвядома выбіралі гастрэйшыя*. Гэта ўжо быў вялікі крок наперад.

Мала таго, гэтыя „нажы“ яны ўжо ня кідалі, а захоўвалі ў сябе „дома“. Такім чынам зьявілася першая хатнягаспадарчая прылада.

---

[1]) Голас сучасных сланоў падобен да гуку трубы.

Аднаго разу ў поўдзень людзі ляжалі ў цяньку і назіралі, як шасьцігадовы хлопчык гуляў ля вады. Раптоўна зьявілася галава кракадзіла і з расчыненым ротам пасунулася да дзіцяці.

Мігам паўскаквала некалькі людзей са сваімі кіямікасьцямі, падбеглі да вады ў самы апошні момант і аглушылі кракадзіла па галаве. Завярцелася гадзіна і ледзь кратаючыся папаўзла назад.



Кракадзіл папоўз да дзіцяці.

Крык задавальненьня вырваўся з ўсіх грудзей. Нешта падобнае да ўсьмешкі зьявілася на тварах. І многа гукаўслоў вырвалася з іх вуснаў.

Цяпер ужо чалавек добра ведаў, што такое зброя!

Ноччу людзі былі разбуджаны нейкім асабліва моцным, але глухім грукатам. Нават зямля затраслася і абваліліся кавалкі берагу.

З жахам паўскаквалі з месц, выбеглі, прыгледзіліся, прыслухаліся—нічога, усё па ранейшаму. Ноч цёмная, але ціхая, толькі недзе далёка відаць была навальніца.



...пачаліся скокі рыб

Трывога была дарэмная; людзі ізноў паклаліся спаць і праспалі ўсю ноч спакойна, хоць усё-ж такі і адчувалі праз сон такі самы гул.

Прыйшоў дзень, гарачы, але цьмяны: нібы сухі туман, нібы пыл насіліся ў паветры. Але самае дзіўнае зьявішча адбывалася на рацэ.

Яна зьменшылася амаль не на палову, і над вадой стаяў густы, белы туман, які з працягам часу ня толькі не разыходзіўся, але ўсё павялічваўся.

Па беразе ўзад і ўперад хадзіў бэгэмот і трывожна рыкаў. Толькі кракадзіл весела плюхаўся ў вадзе, але праз некаторы час і ён уцёк і схаваўся ў чаротніку.

Потым пачаліся скокі рыб. То сям, то там вытыркаліся з вады іх галовы, чым далей усё часьцей і вышэй і нарэшце ўся гэта твар заскакала па ўсёй рацэ. І адкуль толькі набралася іх? Аніводнай пядзі вады ня было спакойнай. Шмат павыкідалася на бераг, іншыя перавярнуліся ўверх чэравам і плавалі, нібы мёртвыя.

Людзі зараз-жа кінуліся лавіць яе, але з крыкам адскочылі назад: вада была гарачая!

Недаўменна пазіралі яны на гэта дзіўнае зьявішча, быццам пытаючыся адзін аднаго: што гэта за цуд такі? Але гэта не перашкодзіла ім прыняцца за рыбу. Праўда, яна была яшчэ недаваранная, але ўсё-ж такі смачнейшая за ўсё тое, што яны елі да гэтага часу.

Тым часам скокі рыб спыніліся зусім, і вада пакрылася пластам мёртвае рыбы.

Шчодрая прырода пачаставала людзей такой поліўкай, якой ніхто яшчэ ня еў і ня бачыў.

І людзі так наеліся, што ледзь валачылі ногі. Яны ўжо ня дзівіліся, ня цікавіліся зьявішчам. Папершае таму, што ня ўмелі разважаць, а падругое—чаго тут яшчэ разважаць? Бяры і еж, калі даюць!

Чым-жа тлумачыцца гэта дзіўнае зьявішча?

Кілёмэтраў на 60 адсюль, там дзе на небасхіле дыміліся горы, пачаў дзейнічаць вулькан.

Лававы струмень павольна папоўз у даліну, дзе працякала рака. Вось ён увайшоў у ваду. Забілася, зашыпела вада, і густая балая пара запоўніла даліну. Лава няўхільна пасоўвалася ўсё далей і далей; вось яна на сярэдзіне ракі. Але што там рабілася,—праз пару нельга было відаць. Але мы і самі можам гэта сабе ўявіць.

А лава ішла сабе ўсё далей і далей, перайшла на другі бераг і ўперлася ў той бок даліны. Стварылася нязвычайная грэбля, праз якую і палілася вада. Цяжка апісаць, што там адбывалася! Але далей рака была ўжо гарачай...

Зажылі нашы людзі, як буржуі. Але... нядоўга.

Праз дзень рыба была ўжо ня такая смачная, праз другі—пачала сьмярдзець, а на трэці трэба было ўцякаць ад яе. А калі дадаць да гэтага пах ад забітых волатаў, якія да гэтага часу зусім загніліся, то стварылася такое пекла, якога нават нашы самыя непераборлівыя жывёлы не маглі-б вытрымаць. Апрача гэтага і піцьцёвай вады ня было, бо ручай у рове цёк толькі ў час дажджу.

Як ні цярпелі людзі, як ні трымаліся, а нарэшце павінны былі пакінуць гэты багаты куток, дзе яны правялі столькі шчасьлівых дзён і дзе яны зрабілі значны крок у сваім разьвіцьці.

Калі яны адыходзілі, дык толькі ў чатырох чалавек была ў руках іх зброя, ды і то толькі таму, што гэта былі вельмі цікавыя кіі-косьці.

Уся-ж астатняя прылада засталася на месцы. Ня было ў іх ні кішэні, ні торбы, ні вяроўкі для яе, а каб трымаць проста ў руцэ, трэба было ўвесь час памятаць, што яна калісьці яшчэ будзе патрэбна. А гэта ўжо не такая простая справа.

Патрабаваць ад іх, каб яны пэўна думалі аб будучым—яшчэ нельга было. Досыць ужо таго, што яны навучыліся думаць аб сучасным.

---

## VIII

Блутаньне па лесе. На лузе. Смажаны трус. Гульня з агнём Пажар! Ноч ля вогнішча. Зноў у пяшчэры. Неспадзяваная сустрэча. Сьмех пераможнікаў.



АГЛЯДЗІМ, што тым часам было з пакінутымі ў лесе хлопцамі.

Няма чаго і казаць, што адчувалі яны сябе вельмі дрэнна. Недаўменна круціліся яны навакол, кідаліся ва ўсе бакі, зноў варочаліся, пакуль голад ня прымусіў іх прыпыніць шуканьне і прыняцца за харчаваньне.

Яны не маглі парадзіцца, выбраць хоць які-небудзь, але пэўны напрамак. Яны толькі трымаліся адзін аднаго ды тупаліся бяз усякага сэнсу. І калі падышоў вечар, яны былі ня надта далёка ад месца начлегу.

Пад вечар адзіноцтва і жудаснае пачуцьцё абхапілі іх яшчэ мацней, і яны яшчэ да цямна ўзабраліся на дрэва, як мага вышэй.

Так яны блыталіся па лесе дзень за днём. І гэтыя дні самастойнага жыцьця надалі ім вопыту больш за папярэднія гады. Раней ім толькі і клопату было, што кінуцца на дрэва, калі раздасца трывожны крык. А цяперака яны самі павінны былі дбаць і дбалі нават больш, чым трэба: ад кожнага шораху, трэску, гуку яны кідаліся у бок, як зайцы; ад якой небудзь казы ратаваліся, як ад тыгры. Затое сапраўды страшны зьвер не пасьпяваў нават і ўбачыць іх.

Дзякуючы ўсяму гэтаму яны адчувалі такую блізкасьць адзін да аднаго, аб якой раней і ня ведалі. Ні на адзін крок

не адлучаліся яны адзін ад аднаго і навучыліся па выгляду, руху разумець, што кожны з іх думае.

І разам з гэтым папоўніўся розум, зьявілася яшчэ некалькі новых слоў. Бесталковая палахлівасьць паступова зьмянялася на больш спакойную асьцярожнасьць, уважлівасьць і некаторае разважаньне.

Адным словам, калі нашы хлопцы не загінуць, то гэта здарэньне будзе для іх добрай школай.

Але лягчэй нам разважаць, чымся на справе праходзіць такую школу... Колькі перацярпелі хлоццы за гэты час! Колькі разоў яны ледзь-ледзь не загінулі! Колькі нагаладаліся, нахаладаліся.

Некалькі тыдняў працягнуліся для іх, як некалькі гадоў м здавалася, што яны ўвесь век так жывуць, і ранейшае жыцьцё было далёкім сном.

Аднаго разу яны вышлі з лесу і ўбачылі перад сабою мясцовасьць, падобную да тэй, дзе яны калісьці, разам са сваімі, знайшлі часовы прытулак у пяшчэры. Узвышшы чарадаваліся з далінамі, а на небасхіле відаць былі ўжо горы.



Пасьля вільготнага, змрочнага лесу хлопцы ахвотна пайшлі на зялёны, залітый сонцам луг.



Тутака таксама было ня мала жывёлаў, але яны значна адрозьніваліся ад лясных. Спачатку хлопцы адчувалі сябе вельмі дрэнна, бо ня было як схавацца, калі-б хто захацеў на іх напасьці. Але зьвяры здаваліся больш міралюбівымі, чым у лесе, і ніхто ня зьбіраўся нападаць.

Вось жвава падбег нейкі зьвер, нібы конь, толькі меншага росту ды на нагах у яго былі тры пальцы: сярэдні

большы, а ззаду два меншых, і на кожным пальцы па капыту. Гэта быў гіппарыон (або гіппотэры), продак нашага каня[1]).



Хлопцы кінуліся ад яго ў бок, а ён—ад іх: адзін аднаго спалохаліся. Потым падышоў яшчэ адзін зьвер з доўгай шыяй і з цікавасьцю стаў разглядаць нашых хлапцоў. Сустракаліся і яшчэ розныя жывёлы, нібы каровы, авечкі, але ўсё нейкія дзіўныя, мы-б цяпер сказалі, мяшаныя: нібы каза, але бяз рог і з доўгім хвастом; нібы карова, але зубы як у сьвіньні; нібы сьвіньня, але ногі як ў мядзьведзя і г. д.

Гэта ўсё былі продкі нашых сучасных жывёлаў. Яны тады, так сказаць, былі яшчэ не падзяліўшыся і ад аднэй і тэй-жа самай жывёліны потым пайшлі патомкі—і козы, і авечкі, і каровы, у залежнасьці ад таго каму ў якіх умовах трапілася жыць.

Для нашых-жа хлапцоў самае галоўнае было тое, што ўся гэтая жывёла была траваедная, не драпежнікі. Яны сабе пасьвіліся на лузе і нічым не пагражалі. Хлопцы супакоіліся, асьмялелі і адчувалі сябе значна лепш, чымся ў цёмным небясьпечным лесе.

Але-ж затое спажывы для іх тутака было мала. Праўда было шмат мышэй і нейкіх трусоў, але злавіць іх у полі вельмі цяжка. Пачалі яны каштаваць тую, ці іншую траву, сёе-тое карэньне, але нічога добрага не знайшлі. Праўда, некалькі разоў трапіліся ім нейкія каласкі з зярняткамі, якія вельмі падабаліся, але наесьціся ад гэтых паасобных каласкоў ня было магчымасьці.

І пачалі тады хлопцы ганяцца за трусом. Голад прымусіў іх ганяцца доўга, упарта, пакуль трус ня зморыцца. Так загналі яны яго ў кут, дзе лагчына звужалася і пераходзіла ў голую камяністую паверхню.

[1]) Пахаджэньне каня найбольш дакладна дасьледавана навукай. Выразна можна прасачыць, як ад першага продка з 5-цю пальцамі разьвіўся сучасны конь з адным капытом. На малюнку паказан шэраг пярэдніх ног, пачынаючы ад 4-пальцавага „орогіппуса“, праз трохпальцавага гіппарыона да сучаснага каня. Зразумела, гэтыя зьмены адбываліся ў працягу мільёнаў год, але косьці людзі знайшлі.

Паверхня была нявысокая, даволі роўная, але неяк зморшчаная, нібы зацьвярдзелая каша. Хлопцы тым часам дужа змарыліся, асабліва давала сябе адчуваць гарачыня, якая, здавалася, ішла ад самай гэтай каменнай плошчы.

Загнаны ў кут трус, ня маючы куды дзецца, ускочыў на каменьне і пачаў выраблять такія скокі, што хлапцы спыніліся і разявілі раты.

Трус падскакваў, як шалёны, не на адзін момант ён ня спыняўся на зямлі; ледзь толькі дакранецца, як адразу-ж ізноў скокне, як мага вышэй.



Трус падскакваў, як шалёны...

Праз некалькі хвілін ён пачаў слабець, перакульвацца, але свае скокі ня спыняў да таго часу, пакуль ужо зусім ня мог падняцца.

Тады пачалося новае дзіва: трус задыміўся!

Дым павялічваўся, гусьцеў, а праз хвіліну поўсьць запалілася ўжо агнём.

І адразу хлопцам успомнілася тое дзіўнае стварэньне, якое яны калісьці бачылі ў лесе.

Поўсьць абгарэла, агонь згас, але справа ня скончылася: трус пачаў шкварыцца, шыпеў, трашчаў, як на патэльні.

Прыемны пах заказытаў у носе ў галодных хлопцаў. Яны рынуліся да труса, але з нечалавечым крыкам адско-

чылі назад: нешта так укусіла іх за ногі, што аж у ваччу пацямнела.

А між тым смачны, смажаны трус ляжаў зусім блізка, крокі на два ад краю і вабіў сваім прыемным пахам. А голад так мучыў! Надыходзіў ужо вечар, а хлопцы за ўвесь дзень пажывіліся толькі некалькімі зярняткамі ды казюлькамі.

Становішча было несьцярпімае. Галовы напруджваліся, каб што-небудзь надумаць, і вось трапіла ў вочы абгарэлае гальлё, рэшткі былога некалі хмызьняку. Адразу прыпомніліся ранейшыя гульні і розныя прыгоды з такім самым гальлём.

І праз некалькі хвілін хлопцы дубцамі прыцягнулі да сябе смажаніну [1]).

З якім смакам першы раз ад стварэньня сьвету чалавек зьеў смажанага мяса! Надыходзіў вечар, у паветры рабілася халаднее, зато як прыемна, цёпла і прытульна было ля гэтай печы.

Гуляючы хлопцы пачалі кідаць на лаву галінкі, і... яны загараліся сьветлым полымем, такім самым, як калісьці ў лесе! Асьвятлілася мясцовасьць навакол, асьвятліліся твары хлопцаў, і разам з сьвятлом засьвяцілася на іх нібы ўсьмешка.

Вось агонь пагас. І зноў зрабілася цёмна і няпрытульна. Тады ізноў падкінулі гальля,—і зноў засьвяцілася.

Значыцца можна самому зрабіць гэты агонь, па свайму жаданьню?!

Гэта пачуцьцё, як хваляй заліло ўсю істоту хлопцаў. Яны ўжо наўмысьля давалі агню згаснуць, а потым зноў яго выклікалі.

Некалькі жывёлін наблізіліся, спыніліся за некалькі крокаў і зьдзіўлена наглядалі, што вырабляюць гэтыя невядомыя, маленькія двуногія стварэньні.

Раз яны паклалі досыць доўгую галіну і, калі запаліўся канец, ўзяліся за другі—і... агонь апынуўся ў іх уласных

---

[1]) Чытачы, мусіць, ужо здагадаліся, што каменная плошча была з лавы, якую нядаўда выліў вулькан. А што азначае слова „нядаўна“,— можна ўявіць сабе з наступнага прыкладу: у Сярэдняй Амэрыцы аднаго разу падарожнікі запальвалі папяросы ад лавы, якая была выкінута вульканам... 37 год назад!

руках! Махнулі яны палаючай галінай раз—другі. Як заравуць жывёліны, як кінуцца прэч! А хлопчыкі так весела закрычалі, што здавалася гэта быў ужо рогат пераможніка-чалавека.

Адламалася маленькая гаручая галінка, звалілася на зямлю. Падсунулі да яе другую галінку і—агонь пераскочыў на яе. Пасунулі яшчэ адну—таксама.

А праз хвіліну на зямлі было вогнішча, зробленае рукамі чалавека.

Таксама гуляючы, перакінулі галінку на другое месца і там зрабілі другое вогнішча.

Забыліся хлапцы і пра зморанасьць і пра сон. Толькі і думалі, каб знайсьці дзе галінку ды падкінуць у агонь. Добра яшчэ, што больш-менш знаходзілася гальля, ды яшчэ сухога. Відаць у гэтай лагчыне рос хмызьняк перад тым, як лава яго заліла.

І калі хлопцы пазьбіралі ды спалілі ўсё бліжэйшае гальлё, тады толькі яны паваліліся на зямлю і паснулі, як забітыя.

Прачнуліся позна. Адразу-ж успомнілі пра ўчарашнія падзеі, і зноў паспрабавалі,—усё таксама.

Але пасьля ўчарашняй вячэры адчувалася страшэнная смага. А бліжэйшая вада была досыць далёка, ля лесу, адкуль яны ўчора прышлі. Як ні цярпелі, але не маглі вытрымаць і павінны былі ісьці шукаць вады.

Напіліся і пайшлі назад. Па дарозе ім прыпомнілася ўчарашняе паляваньне на труса, і яны захацелі ізноў зрабіць таксама. Але на гэты раз нічога ня вышла: трус уцёк зусім у другі бок. Заместа гэтага яны злавілі двух маленькіх мышанят. Але якія-б нясмачныя яны былі ў параўнаньні з учарашняй смажанінай!

Закусілі зёлкамі, і зноў пагулялі ў вогнішчы. Але праз гадзіны дзьве ізноў захацелі піць і зноў павінны былі цягнуцца.

На абед ім пашанцавала злавіць труса. І вось, прыпомніўшы ўчарашнюю смажаніну, яны самі кінулі яго „на пліту!“ Гэта ўжо быў вялічэзны посьпех. Ён надаў яшчэ больш бадзёрасьці, упэўненасьці і, сьмела можна сказаць, розуму.

Адна толькі бяда была—гэта кожны раз цягнуцца далёка, каб напіцца, бо адлегласьць ад лесу была кілёмэтраў са два. Ды і жывёлы, убачыўшы, што тутака швэндаюцца нейкія неспакойныя і шкодныя стварэньні,—пастараліся адыйсьці далей.

. . .



. . . агонь сам пайшоў па траве.

Часам хлопцы ўвесь дзень бадзяліся зусім у другім баку, але на ноч прыходзілі сюды, каб пагрэцца і пагуляць з агнём.

Надвор'е ўвесь час было сухое, гарачае. Трава на лузе пасохла.

І вось аднаго разу хлопцы зрабілі вогнішча далей, сярод густой, сухой травы. Не пасьпелі яны дадаць гальля, як агонь сам пайшоў паўзьці па траве. Далей-болей, і пачаўся такі пажар, што хлопцы бяз памяці пабеглі ў лес. А разам з імі ўсё жывое. Пад нагамі мышы, трусы, пацукі. Побач—гіпнарыоны, антылопы і розныя іншыя. Некалькі разоў жывёлы зьбівалі хлопцаў з ног. Кожны думаў толькі аб тым, каб выратавацца.

Вось ужо лес, ручаіна, а ззаду агонь дасягае, смаліць. Пераскочылі яны праз ваду, пабеглі далей—чуюць, што ззаду цішэй стала. Азірнуліся—агонь ужо ня гоніцца. Ён спыніўся ля берагу і пайшоў у бок.

Тады вярнуліся назад. На другім баку чарнелася поле, дымілася некалькі абсмаленых дрэў. Пажар гуў недзе далёка. Але прайшло яшчэ шмат часу, пакуль хлопцы зусім супакоіліся.

Потым асьцярожна перайшлі на той бок і сталі хадзіць па цёплай зямлі. А далей, ідучы ўздоўж лесу, яны натрапілі на смажаную жывёліну велічынёю з барана. Тутака яны і спыніліся.

Але не пасьпелі яшчэ прыступіцца, як з лесу паказаўся тыгра. Адным духам хлопцы адбегліся і апынуліся на дрэве. З якой зайздрасьцю пазіралі яны адтуль, як вораг паядаў іх уласную смажаніну.

Дзень скончыўся хутка сьцямнелася. І тут нашы хлопцы заўважылі, што недзе блізка паблісквае агонь. Цяпер ужо агонь для іх быў „свой брат". Ня гледзячы на тое, што тыгра яшчэ ня скончыў вячэру і быў недалёка, яны ціханька зьлезьлі з дрэва і падышлі да агню.

Гарэў тоўсты буралом. Гарэў слаба, ледзь-ледзь сьвіціўся. Але нашы таварышы з гаспадарскім выглядам і важнай мінай пачалі падкідваць гальлё. Агонь весела затрашчаў, павялічыўся і асьвятліў тыгру.

Той пакінуў есьці і недаўменна паглядзеў, нібы пытаючыся: што гэта за штукі такія? Здаецца, гэта тыя самыя нікчэмныя жэўжыкі, якія толькі што паўцякалі адсюль, але якія яны грозныя, як страшна яны там арудваюць. А вось

гэта жудаснае ўжо ў іх руках, яны так грозна размахваюць ім.

І, апусьціўшы хвост, тыгра ціханька ўцёк у лес.

Тады хлопцы падцягнулі сваю здабычу да вогнішча і спакойна павячэралі пад аховаю агню.

Навакол ляскалі зубамі зьвяры, але кожны раз, калі хлопцы падкладалі гальля, асабліва, калі з трэскам ляцелі іскры,—зьвяры адскаквалі назад.

Але трэба быць справядлівым і шчыра падзякваць гэтым зьвярам. Каб яны ня ляскалі зубамі, дык нашы хлопцы спакойна паснулі-б і спусьцілі агонь. А цяпер яны ўвесь час былі прымушаны падтрымліваць яго, увесь час яны вучыліся, як ужываць яго.

На другі-ж дзень агню пагражала сур'ёзная небясьпека. Сонца сьвяціла ясна і горача. Грэцца ня трэба было. Сьвятло ад агню ня мела аніякага знаку. І калі паказаўся той самы тыгра нашы хлопцы нават і ня пробвалі пудзіць яго галінамі, якія днём ніякага асаблівага выгляду ня мелі. Яны паўцякалі таксама, як і ўчора.

Навошта было тады падтрымліваць агонь удзень? Яны бадзяліся навакол, як заўсёды, і, паміж іншым, зусім блізка натрапілі на пяшчэру, з якой калісьці іх выгнаў леў. Праўда, падрабязна гэтага яны не памяталі, але нейкія ўспаміны заварушыліся, прынамсі яны добра ведалі, што гэта месца ім знаёмае і што тутака адбывалася з імі нешта нязвычайнае.

Ва ўсякім разе яны ахвотна спыніліся ў гэтай пяшчэры, а да вогнішча хадзілі даядаць свайго барана. Тамака яны дзеля гульні падправілі агонь і цешыліся, гледзячы на дым. Толькі дзякуючы гэтаму, ды яшчэ таму, што тамака гарэлі тоўстыя кавалкі дрэва, толькі таму захаваўся агонь да вечара.

І толькі пад вечар, калі ў пяшчэры зрабілася цёмна і няпрытульна, тады толькі сябры адчулі, што цяпер агонь вельмі будзе патрэбен.

І праз некаторы час у пяшчэры весела патрэскваў агонь.

Але тутака выявілася яшчэ адна труднасьць: яны ўжо добра ведалі, што агонь трэба падтрымліваць, што трэба падкідаць дрэва,—вось яны і хадзілі кожны раз за кавалкам дрэва толькі тады, калі агонь пачынаў гаснуць.

Назапасіць апалу наперад яны яшчэ не маглі. Так яны мучыліся гадзіны са дзьве, пакуль самі абставіны ня прымусілі іх зрабіць некаторы запас. Зараз-жа пасьля гэтага яны абодва паснулі.

Праз некаторы час „у дзьверы“ асьцярожна прасунулася галава нейкага чалавека. З цікавасьцю паглядзеў ён на агонь, але яшчэ з большай цікавасьцю на двух сьпячых хлопцаў. Потым чалавек ціханька ўвайшоў у сярэдзіну, а за ім выглядала яшчэ некалькі галоў.

Падышоў чалавек, прыгледзіўся да хлопцаў і раптам нешта закрычаў вясёлым голасам. Спалоханыя хлопцы паўскаквалі спрасонку і пазнавалі павадыра, а за ім другіх сваіх.

Нязвычайны гоман падняўся ў пяшчэры. Гаварылі ўсе разам, калі можна назваць гаворкай тыя гукі, якія нават не разумеў і той, хто іх казаў. Але ўзварушанае пачуцьцё патрабавала выхаду і гэтым выхадам зьяўляліся ўсе гэтыя гукі, рухі, кліч. Сярод гэтых гукаў-слоў вызначалася слова „о-о“, якое азначала агонь і якое ўсе разумелі.

Маладыя гаспадары падкінулі гальля, госьці расьселіся навокала. Усе былі радасныя, вочы блішчэлі, праз твары праціскалася ўсьмешка.

Раптам ля ўваходу раздаўся грозны рык ільва.

Людзі шарахнуліся ў кут і скамянелі.

Але Ра ўхапіў палаючую галіну і сьмела кінуўся ўперад. Леў неяк жаласна піскнуў і зьнік у цемры.

Людзям адлягло ад сэрца, і на тварах іх зьявіўся першы сьмех...

---

# ЗЬМЕСТ

